ПЯТЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ

# РУНЬ

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ ЛІТВЫ

WWW.RUNBEL.LT

17 верасьня 2001 № 42 кошт 1 літ

# СЯДЗІБА Д'ЯБЛА

Я меў пісаць пра выбары ў Беларусі - але каго на сьвеце яны цікавяць пасьля жахлівага 11 верасьня 2001 г.? Усе беларускія крыўды зацьміліся калясальным выбухам зла ў Нью-Ёрку: дзясяткі тысячаў ні ў чым не павінных ахвяраў, не гаворачы ўжо пра матар'яльныя страты...

Магчыма, у гэты верасьнёўскі аўторак і пачалося - сапраўднае, а не каляндарнае! - XXI стагодзьдзе. Так, як XX ст. пачалося ў сапраўднасьці з 1-ай Сусьветнай вайны. Зрэшты, «рэпэтыцыі» падобнай трагедыі былі і ў мінулым стагодзьдзі. Ці-ж вышэйшыя ў маральным сэньсе за невядомых спраўцаў верасьнёўскага злачынства стаяць тыя, хто накіроўваў самалёты на Хірасіму й Нагасакі? Хто зажыва гнаіў мільёны ў ГУЛАГу?... І ўсе самы страшныя, самыя неверагодныя злачынствы аб'ядноўвае тое, што ўсе яны зьдзейсьненыя ў імя нейкай ідэі, нейкай мэты, што апраўдвае любыя сродкі.

Толькі людзі з апантанай сьвядомасьцю здольныя на такія дзеяньні, на забойства сотняў тысячаў «недрыжачай рукой». «Сядзіба д'ябла» месьціцца ня ў нейкай «Імпэрыі Зла» ці «Краіне Шайтана» - яна ў прэпараваных людзкіх мозгах. Колькі-ж іх мітусіцца, ліпне, бы гнаявыя мухі, ля кожнай чалавечай душы гэтых розных «прапаведнікаў», «правадыроў», «пасіянарыяў»... І кожны стараецца стварыць з навакольных людзей як найболей марыянэтак, зомбі - вядома-ж, у імя як найбольш высакародных мэтаў...

У мяне ёсьць некалькі знаёмых, якія далі сябе ўцягнуць у розныя сэкты. Жахліва назіраць, як з кожным днём, з кожным тыднем яны трацяць сябе, сваю асобу, пачынаюць гаварыць чужымі словамі, як шклянее й робіцца фанатычным іхны позірк... А існуюць-жа цэлыя краіны-зомбі: Паўночная Карэя, Аўганістан, Куба... А Беларусь?

Мяне больш за ўсё ўражвае, што там ёсьць маса людзей, шчыра, напраўдзе перакананых, што яны жывуць добра, лепш за іншых, і што гэта ўсё даў ім «празідзент»... У Літве людзі жывуць ня лепш, але тут яны, прынамсі, усьведамляюць, што жывуць кепска, ганебна кепска, і ў гэтым уся надзея на нейкае палепшаньне.

Як і калі адбылася «прамыўка мозгаў» беларускай пісьменьніцы Таісы Бондар, пасьля якой яна выступіла з халопскім артыкулам у падтрымку Лукашэнкі ў прымітыўным агітацыйным «спэцвыпуску» «Советской Белоруссии»? І гэта чалавек, якому належыць «сеяць разумнае, добрае, вечнае»...

Нашыя лідары ўсё яшчэ носяцца зь ілюзіяй, што заўсёды йснуе нейкі справядлівы, непадкупны народ, носьбіт маралі й праўды. 11 верасьня 2001 г. увесь сьвет глядзеў на палаючыя хмарачосы ў Амэрыцы - і побач былі кадры, на якіх была паказаная бурлівая, неўтаймаваная, дзікая й злая радасьць палестынцаў... Радасьць з таго, што гараць зажыва тысячы нявінных ахвяраў... Каторае відовішча больш жахлівае?.. Няўжо мы так заўсёды й будзем верыць, што народы невінаватыя ў тым, што пайшлі за Сталіным, Гітлерам, талібамі?

У нашых школах вучаць дзяцей усяму на сьвеце. А я-б зрабіў галоўнаю навукаю ўменьне адстаяць сябе, свае думкі, і вучыў-бы самай галоўнай ідэі - што няма ані такой праўды, ані такой мэты, ані такіх багоў, у імя каторых дазволена забіваць і рабіць зло. Сьветлы розум і чыстая душа - тая цытадэль, за якую кожны павінен стаяць да апошняга. Не ўпускайма-ж д'ябла ў нашыя душы - каб ня ўмёрлі. Бо чалавек, за якога думаюць іншыя, ёсьць мёртвы, і здольны сеяць толькі сьмерць.

**Алег Аблажэй**

# Абуджэньне

*Беларусь мая белая, дзе схаваная ты?*
*Беларусь злукашэлая, ці абудзісься ты?*
*Беларусь мая вольная, уставай да сьвятла.*
*Беларусь велічэзная, дзе твой гонар жыцьця?*
*Беларусь, калыхайся дубовым лісьцём,*
*Беларусь, узвышайся бацькоўскім жыцьцём.*
*Камяні у Навааградку спаць не даюць,*
*Абразы Еўфрасіньні жалобна пяюць.*
*Толькі сьветлая Сьвіцязь зь мінулых праяў*
*Блісьне позіркам сумным Купалы, маўляў:*
*— Ці прасьнесься, абудзесься ты, беларус?*
*Ці паднімеш Краіну, што церпіць прымус?*
*Ці мо будзем ізноў у палон падпадаць*
*І гаротны свой шлях, як заўжды, праклінаць?*

**Язэп Вольны**

## ВІЛЕНСКІ МУЗЭЙ



*Мы адраджаем Беларускі Музэй у Вільні. Пакуль што экспазыцыя нашая знаходзіцца пераважна ў «віртуальнай прасторы» - на старонках «Руні» ды ў інтэрнэце. Аднак мы верым, што неўзабаве яна ўвасобіцца ў рэальнасьці. Мы ўжо напрацягу дзесяцігодзьдзя зьбіраем даўнейшыя рэчы, фатаздымкі, кнігі. Мы ўжо распавядалі вам пра іх і будзем распавядаць надалей: як выглядаюць, дзе знайшліся, каму належылі, хто перадаў, а галоўнае - якія гісторыі з гэтымі экспанатамі зьвязаныя. Нашая экспазыцыя - гэта таксама распаведы пра асобаў і пра гісторыю беларускай Вільні й Віленшчыны... На жаль, шмат што зьнішчанае, але, дзякуй Богу, нямала яшчэ чаго й захавалася. Што-ж, надыйшоў «час зьбіраць камяні».*

# Беларускі нацыянальны герб

Гэтая выява гербу вышытая каляровымі ніткамі ды ўстаўленая пад шкло ў сьціплую драўляную рамачку. Вышывала герб сьветлай памяці Зоя Аляксандраўна Каўшанка падчас свае вучобы ў Віленскай Беларускай Гімназіі, а гэта гады з 1922 па 1929.

Праца зробленая дасканала. У гімназіі быў гурток, дзе вучаніцы пераймалі пекнае мастацтва вышываньня. Дарэчы, пэўны час настаўніцаю ў гэтым гуртку была маці Зоі - спн. Альжбэта Коўш. Так што, відаць, Зоя вучылася вышываць і ў гімназіі, і ў хаце. Аснова карціны - шэрае даматканая тканіна. Вершнік і конь вышытыя каляровымі ніткамі. Крыж на шчыце, элемэнты вупражы, падковы з замілаваньнем аздобленыя залатою ніткаю. Конь імкліва скача. Грыва, хвост, апона, плюмаж на шаломе шырока разьвіваюцца. Рыцар трымаецца цьвёрда, погляд ягоны строгі. Адчуваецца, што праца рабілася з душою, са шчырым і моцным пачуцьцём. Магчыма, тут зьмяшаліся ня толькі патрыятычныя пачуцьці, але й рамантычныя дзявочыя мары пра каханага рыцара на белым кані. Якая-ж дзяўчына ня марыць пра свайго рыцара!? У гэтым сэньсе ўсім беларускім дзяўчатам пашанцавала. Наш нацыянальны герб якраз увасабляе такія мары.

У 1944 г. Зоя Каўшанка пакінула родную хату. За ўдзел у працы Беларускага Нацыянальнага Камітэту яна была арыштаваная савецкімі карнымі ворганамі й асуджаная на доўгі тэрмін зьняволеньня. Адбыла-адпакутавала свой тэрмін, вярнулася ў Вільню, у родную хату. У ейную хату ўжо засяліліся чужыя людзі. Колькі клопатаў мела яна, каб адсудзіць сваю спадчыну. І якой-жа радасьцю было для яе пасьля ўсяго знайсьці на гарышчы вышыванку шчасьлівай гімназічнай пары!

Калі Літва скінула камуністычны рэжым, Зоя Аляксандраўна са схованкі дастала «Пагоню» й начапіла ў хаце на ганаровае мейсца побач з абразамі...

А ў вашай хаце ёсьць беларускі герб?

**Сяржук Вітушка**

# Беларускі нацыянальны сьцяг

Вялікае бел-чырвона-белае палотнішча. Калісьці яно лунала над будынкам беларускае амбасады ў Вільні. У сьцягоў, якія вывешваюцца на вуліцы, незайздросная доля: іх трэпле вецер, брудзіць пыл, выпальвае сонца. І гэты сьцяг выглядае, як вэтэран вайны. Між іншым, за гэтым сьцягам сапраўды ёсьць баявая гісторыя...

Лукашэнка ірваўся да ўлады. Пасьля перамогі над Кебічам і камандай старой намэнклятуры наступным супернікам стаў нацыянальны дэмакратычны рух. У 1955 г. быў нанесены ганебны ўдар і па нашых нацыянальных сымбалях - гербу й сьцягу. Іх забаранілі, абылгалі, замянілі на савецкія. Бел-чырвона-белы штандар над будынкам прэзыдэнцкага паляцу быў па-дзікунску разадраны на кавалкі. Шматкі, як сувэніры, прадаваліся па 100 даляраў. Пад нож павінныя былі пайсьці ўсе сьцягі. Палотнішча, пра якое я распавядаю, удалося ўратаваць. А было гэта так.

Працаваў у Віленскай беларускай амбасадзе «заўхозам» такі Іван Іванавіч Мазурык. І вось аднойчы папрасіў ён Андрусіка Старавойтава, сябра Таварыства беларускай культуры, адрамантаваць яму радыёпрыймач, бо той у гэтым дзеле панімаецца. Андрусь і адрамантаваў. «Колькі заплаціць?» - пытаецца «заўхоз». А Андрусь, добрая душа, кажа: «Ня трэба грошай, аддайце лепей сьцяг!» Той пагадзіўся, запакаваў і цішком, каб ніхто ня бачыў, аддаў. Аддаючы, прызнаўся, што быў загад бел-чырвона-белыя сьцягі зьнішчыць.

Такім чынам, наш сымбаль быў уратаваны й цяпер захоўваецца ў Таварыстве беларускай культуры. Пасьля віленскія беларусы няраз выходзілі на пікеты пратэсту да беларускай амбасады. Там урачыста разгортвалі нескароны сьцяг. Яны ўпэўненыя - Беларусь пераможа: гэтае палотнішча спачатку зноў з гонарам будзе ўзьнятае над амбасадай, а потым зойме пачэснае мейсца ў музэі.



*Андрусь Старавойтаў (зьлева) трымае ўратаваны ім сьцяг. Пікет перад беларускаю амбасадаю ў Вільні. 21 ліпеня 1999 г.*

**Сяржук Вітушка**

ЛЮСТРАДЗЁН



Сьвята ведаў праходзіла 3 верасьня ў Віленскай сярэдняй школе імя Ф. Скарыны. Пасьля летняга адпачынку сабраліся на школьным двары вучні, настаўнікі, госьці. Сёлета школу пакінула 12 вучняў, а ў першую клясу прыйшло 9 дзяцей. Штопраўды, агульная колькасьць вучняў у школе павялічылася за кошт прыёму ў старэйшыя клясы: цяпер у нашай школе вучыцца 175 навучэнцаў. Прысутныя на сьвяце госьці зь беларускай амбасады ў Літве прэзэнтавалі школе ажно 9 падарункаў: кожны першаклясьнік атрымаў поліэтэленавы пакет з флямастарамі й сшыткамі маляваньня.



*Рэдакцыя «Руні» правяла адумысловае апытаньне сярод літоўцаў, якія пільна сочаць за падзеямі ў суседняй краіне. Гэтыя людзі розныя векам, працоўным заняткам, палітычнымі поглядамі. Аб'ядноўвае іх адно - з кожным зь ім мы гаварылі па-беларуску. Пагадзіцеся, у нашай сытуацыі ўжо адзін гэты факт сьведчыць пра многае. Задавалася -ж ім адно тое самае пытаньне:*

**- Чым можа быць карысны досьвед Літвы для Беларусі і наадварот - досьвед Беларусі для Літвы?**



**Стасіс Кавалюкас,** рэжысёр, супрацоўнік рэдакцыі беларускай праграмы на Літоўскай нацыянальнай тэлевізіі:

- Тут цяжка параўнаць і штосьць параіць. Мне здаецца, у Беларусі абудзілася толькі частка грамадзтва. Большасьць ня мае ні палітычнага мысьленьня, ні нацыянальнага самаўсьведамленьня. Мы ў свойчас баранілі свабоду, незалежнасьць, але нам было лягчэй - мы ведалі сваю мову, захавалі сваю нацыянальную культуру. Беларусаў мне ўвесь час шкада.: як-бы хто скраў у іх мову, памяць... А пажадаць абавязкова трэба вось што - не паўтараць нашых памылак. Калі мы змагаліся за незалежнасьць, у нас была глеба пад нагамі, апірышча. Цяпер мы гэтае страцілі, бездапаможна плюхаемся ў вадзе. Ёсьць многа прыгожых словаў, абяцанкаў, а жыцьцё не паляпшаецца... Кожнаму, аднак, дадзены свой компас. Мы пойдзем рознымі дарогамі. Але вось ужо дзесяць гадоў мы штотыдзень рыхтуем беларускую перадачу, і перад маімі вачыма было столькі цікавых людзей, столькі прыгожых краявідаў... Я баюся, што захаваецца гэтая мяжа, што мы нічога ня будзем ведаць пра Беларусь, што станем ворагамі. Я больш за ўсё баюся гэтага.



**Ізідар, Шэмелёніс,** журналіст, ганаровы старшыня Таварыства літоўцаў у Пелясе (Воранаўскі раён, Беларусь):

- Я адкажу на пытаньне, чаму асабіста навучыўся ў беларусаў. Беларускі народ - добры народ. Зь беларусам лягчэй дамовіцца, чым зь літоўцам. Я гэта сам перажыў яшчэ ў Вялікую Айчынную вайну. І пазьней. Я працаваў журналістам у Беларусі. Пра столькіх людзей трымаю памяць у сэрцы! Калі-б кіраўніцтва ў Беларусі павярнула на нашу, не - на сваю дарогу, на дэмакратычную, дык з такім народам, як там, вы-б абагналі Літву. І калі-б у Беларусі абралі новы шлях, дык можа-б ня стала гэтага праклятага - гэтай мяжы. Навошта яна? Мы яшчэ спрабавалі дамовіцца, каб жыхарам прыгранічных раёнаў можна было езьдзіць бязь візаў. Марна. Кажуць - спэкуляцыя, кантрабанда. Якая там спэкуляцыя, калі ты мне прывязеш пляшку «Зуброўкі» ці я табе - журавіннай «Bobeline»? Ня тут трэба шукаць кантрабанду. Карацей, я за тое, каб сябраваць, а не разьдзяляцца.



**Віргінія Тарнаўскайтэ,** рэжысёр, дырэктар Літоўскага цэнтру культуры, адукацыі, інфармацыі ў Менску:

- Безумоўна, і беларусам, і літоўцам ёсьць чаму павучыцца адзін у аднаго. Літоўцы - усе мае знаёмыя, і зь вескі, і з горада - калі іх спытаеш, як жывеш, адкажуць - кепска, грошай няма й г. д. А беларус - ён больш аптыміст. У яго спытаесься, ён адкажа - добра жыву! Хаця, калі параўнаць - беларус матар'яльна жыве сёньня куды горш. Я-ж бываю ў землякоў у Гервятах. Калгасьнік на жніве цэлы месяц цяжка працуе, а што атрымае? 4-10 даляраў! Праўда, тыя, хто працуе на ідэалёгію, зарабляюць значна больш. Не хвалюйцеся, Зімоўскі (тэлекамэнтатар Беларускага тэлебачаньня - заўв. рэд.) у нас вельмі добра зарабляе!.. Літоўцы любяць паспрачацца. Беларусы маўчаць. Калі-б абʼяднаць нашыя характары. мусіць-бы атрымаўся ідэальны чалавек. А калі гаварыць пра дзяржаву, дык тут мы яшчэ больш розьнімся. У Літве - дэмакратыя. Ёсьць свае мінусы, але ёсьць і плюсы. Хоць сабе свабода слова. Не падабаецца прэзыдэнт - можаш сказаць пра гэта свабодна. А ў Беларусі, я не пабаюся гэтага сказаць, у гэтым сэнсе - дыктатура. Калі ўзяць творчых людзей, дык у Беларусі ў кожнага зь іх працуе ўнутраны цэнзар. У нас у тэатры будзе абмяркоўвацца рэпэртуар і можна пачуць, маўляў, ня будзем гэта браць, гэта палітыка...



**Валдас Банайціс**, доктар нарколяг, у 80-ыя гг. адзін з заснавальнікаў першай грамадзкай беларускай арганізацыі ў незалежнай Літве клюбу «Сябрына»:

- Я жыву ў Новай Вілейцы (мікрараён у Вільні - заўв. рэд.), сярод «тутэйшых». Ведаеце, Новая Вілейка нікога не выбірае. Ужо шмат гадоў ад нашай выбарчай акругі няма дэпутата ў парляманьце. Людзі не прыходзяць галасаваць. Я, праўда, прыходжу. Але забіраю свой бюлетэнь дахаты, каб ніхто не скарыстаў мой голас. Я ня веру партыйнай сыстэме ў нашай краіне. Гэта не партыйная сыстэма - гэта мафія. Яны паміж сабой дзеляць, каму быць ля карыта. Мне здаецца, тое самае дзеецца і ў Беларусі. Канкурэнтаў у Лукашэнкі на выбарах не было... Я ня ведаю, чаму Літва можа навучыць беларусаў. Вось я - доктар-нарколяг. Я скажу шчыра, колькасьць хворых на белую гарачку за часы незалежнасьці вырасла ў пяць разоў... Чаму вучыць Беларусь нас? Паміж намі - жалезны занавес. У літоўцаў аніякага зацікаўленьня Беларусьсю. Як-бы тундра пачынаецца за Лаварышкамі. У мяне асабіста ў свойчас такое зацікаўленьне было. Я кожны месяц туды езьдзіў, кніжку купіць, жывую мову пачуць. А цяпер, за пяць гадоў, толькі адзін раз зьезьдзіў. Такія ўмовы перасячэньня мяжы й такі пануе настрой у грамадзтве. У літоўцаў зацікаўленьне ёсьць да краінаў, народаў, якіх лічаць лепшымі за сябе. Да беларусаў, да мяйсцовых «тутэйшых» - няма нітрохі... Вам усё хочацца аптымізму. Ну, калі так хочаце, дык і ў Літве, і ў Беларусі гэта аднолькавае патрабаваньне да ўладаў: не заціскайце прыватную ўласнасьць, прыватную ініцыятыву, не душыце падаткамі, дайце людзям працаваць на сябе. Прынамсі, ад п'янства гэта ёсьць найлепшыя лекі.

*Падрыхтаваў* **Сяржук Вітушка**

*Працяг будзе*



Чалец Сойму Літоўскай Рэспублікі Вацлаў Станкевіч, беларус паводле паходжаньня й сьвядомасьці, вярнуўся колькі дзён таму зь Беларусі, дзе разам зь іншымі сваімі калегамі браў удзел у выбарах у якасьці міжнароднага назіральніка. Калі наш літоўскі парлямантары на замацаваным за ім выбарчым участку загаварыў па-беларуску, лукашэнкаўская функцыянэры палічылі, што перад імі актывіст Беларускага народнага фронту...

Пра гэта й пра ўражаньні сп. Вацлава пра нядаўнія выбары чытайце ў інтэрвію на старонцы 7.

# Падвіленская Беларусь

*Заканчэньне. Пачатак у № 41*

Вельмі цікавай асобай быў Антон Казіміравіч Лукашэвіч. Добрыя гаспадарскія, чалавечыя якасьці свайго брата Ядзьвіга Ёсіфаўна Юцкевіч вызначыла наступным чынам: «Антон быў столяр добры, рабіў шафы. Яны (Лукашэвічы) сям'ёй пшчолы дзяржалі. Не хацеў свайго папусьціць і не хацеў чужога». Пра нацыянальную сьвядомасьць брата казала: «Брат быў пісьменны. Ён Беларусь хацеў!» Пра Янкоўскіх-жа Ядзьвіга Ёсіфаўна сказала: «Янкоўскія тэж беларусамі запісаўшыся!»

Для сваёй дачкі Ванды й Юзюка Янкоўскага, як яны бралі шлюб, Антон Лукашэвіч запрасіў асьвяціць шлюб і засьведчыць стварэньне сям'і Адама Станкевіча. Станкевіч даваў для маладых шлюб, а пасьля быў у хаце Лукашэвіча ў Кяне на вясельлі. У госьці да Лукашэвічаў прыяжджалі віленскія беларусы Шутовічы.

Пра жыцьцё свайго дзядзькі Антона дый пра сваё ўласнае ў часе вайны Аміля Нарвойш згадвала так: «Дзядзька Лукашэвіч Антон і швагер былі запісаныя беларусамі. У гумне ў дзядзькі ў часе вайны хавалі ўсялякія беларускія (і пабожныя, і розныя) кніжкі. Было што пашлюць што не-будзь зрабіць у гумне (часьцей за ўсё каровам на сена). А я пайду ў гумно і ўсё чытаю (прачытаю пару зваротачкаў і іду). Пасьля, як прыходзіла дахаты, у мяне пыталіся, чаму так доўга не прыходзіла, а я не прызнаюся, што чытала беларускія кніжкі».

На фатаграфіі, якую падарыла мне Аміля Бэнэдыктаўна Нарвойш - сям'я Лукашэвічаў у 1942 г.: Антон Казіміравіч Лукашэвіч, ягоная жонка Тэкля Лукашэвіч (у прастамоўі - Антучыха, у дзявоцтве - Дубнічка, ураджэнка вёскі Шыльнікі), дачка Нэля (старэйшая, зьлева), дачка Ванда (справа), сын Лявон (1924 г. н.). «Некаторыя мясцовыя людзі, - згадвала Аміля Бэнэдыктаўна, - мелі злосьць на дзядзьку, што ён беларус, прыходзілі зь немцамі арыштоўваць. Яму давялося хавацца ў сваякоў». Антон Лукашэвіч памёр у 1945 г. ад тыфусу. Пад перасьлед нямецкіх акупантаў у цяжкія ваенныя гады падпалі таксама Янкоўскія: дзеда (старога Янкоўскага) й братоў Францішака, Рафала й Барнюка немцы «ганялі» (г. зн. прыходзілі арыштоўваць).

Да самага канца вайны вельмі дзейным і актыўным быў Адам Станкевіч. Таму ў сваіх успамінах мае сураэмоўніцы зноў і зноў вярталіся да ягонай асобы й дзейнасьці: «Ён надта йшоў за Бога. Ён быў беларус. Пісаў кніжкі, вершы, повесьці. Камуністаў не любіў надта. У ягонай кватэры на Зарэччы была вялікая бібліятэка (меў сьціплую кватэру, якая была застаўленая кнігамі). Адна Шутавічанка (Марыся, старая дзева) была ў яго гаспадыня. Станкевіч пры немцах быў ксяндзом. Арыштавалі яго ў вайну, як ужо немцаў пагналі».

Пасьля вайны, калі назіраўся заняпад беларускасьці Віленшчыны й рост польскасьці ў выглядзе польскамоўнага школьніцтва, друку ды іншага, Антон Янкоўскі працягваў сваю дзейнасьць на беларускай ніве. Ён доўгі час быў аграномам мясцовага калгасу, перапісваўся зь беларускімі фалькларыстамі, супрацоўнічаў зь мясцовым, у тым ліку польскамоўным друкам, дзе асьвятляў пытаньні гісторыі, краязнаўства. Пра яго земляі казалі проста: «Быў карэспандэнт!».

Падвіленская беларушчына нагадала пра сябе некалькі разоў у 1950-70 гг. ва ўмовах, як ня дзіўна, спрыяльных пабытоваму захаваньню й разьвіцьцю сякіх-такіх рысаў беларушчыны пэрыяду калгаснага будаўніцтва. Недзе ў 1954-55 гг. загадчыца Лаварышскага дому культуры Пашкоўская (у дзяв. Сямашка) Ганна Вікенцьеўна ставіла на сцэне клюбу спэктакль «Зьбянтэжаны Саўка» Леапольда Родзевіча. Недзе ў 1965 г. там жа ставілі Купалаўскую «Паўлінку» й «Пасланца» Родзевіча. На 1960-70 гг. прыпаў і вечар мастацкай самадзейнасьці для вэтэранаў калгасу «Новае жыцьцё», які ладзіўся сіламу адамчукіх. Вечар пачынаўся песьняй «Ад веку мы спалі і нас разбудзілі...» (!). На вечарах сьпяваліся беларускія песьні, чыталіся беларускія вершы. На вачох у многіх прысутных былі сьлёзы. Пасьля людзі, што сьпявалі й чыталі на вечарах, дапамагалі сьпяваць іншым у час жніва ў брыгадах. Тлумачылі актыўнасьць адамчуцкіх проста: «Адамчукі-ж бароліся за Беларусь!»

Што да фальклёрнага аблічча нашых падвіленскіх землякоў, дык мы не пераставалі ад душы зьдзіўляцца разнастайнасьці таго, з чым нам даводзілася сустракацца ў вёсках пад Вільняй. Мы пераканаліся, што тут і цяпер маглі ўспомніць даўнейшую жніўную: «Там за борам-лесам, Там нядзьведзь рыкае...» Ці такую жніўную: «Ой чы выйшла вялікая хмара Да зь цёмнага бору...». Могуць засьпяваць і вясельную: «Ой, у горадзе, дый на пагодзе Канапелька стаяла...» Ці: «Прыйшоў на вясельле наш сватох, Падвязаўшы крыш ён ручніком...» Або жартоўную: «Пусьці, татуля, у сад пагуляці...» Або ўзьнёслую: «Ой, застучэлі вараны коні на двары, Ой, зазьвінелі залаты кубкі на стале...» Могуць падхапіць і бяседную: «Выпʼем, браце, выпʼем тут, На тым сьвеце не дадуць. Ой, дадуць, не дадуць, Выпʼем, браце, выпʼем тут!» Ці вельмі даўную: «Ой, шумавіца, ой, грымавіца, Дробны дождж ідзе...» Могуць прадэклямаваць вершам: «Край наш бедны, край наш родны: Бедна тут жыве народ. Дзе тут трохі луг пры лугу, Хвойняк, мох ды верасок. Наша доля кепска родзя...» І дадаць: «Гэта Беларусь сьпявала пад Польскай!» Лёгка ўспомняць і калгасную прыпеўку: «Трудадзень і трудадзень, Ох, і трудадніцы! Бацька ходзіць без штаноў, Маці без спадніцы». Ці: «У калгасе добра жыць - Адзін робя, сем ляжыць. А як сонца прыпячэ, Дык і гэты уцячэ!» Могуць прыгожа засьпяваць і па-польску (але, канечне, не «па-варшавяцку»): «Памен-там раз...» («Рэбэка»), «З колючэго джэва людзі плоты гродзон...» Могуць добра вывесьці велікодную «лалымку» і вясельную «Сёндай, дзевчына, сёндай кохана...» І ўсё гэта - сучасная падвіленская вёска. Просты чалавек, успамінаючы пра нешта вельмі для яго дарагое, можа сказаць: «Я помню, як Бог на небе! Божа-ж сьцеражы!» Або й зусім па-свойску: «Была во такая, як Замкавая гара!»

Будзь-жа бласлаўлёная падвіленская зямля, што пад Богам і Замкавай гарой адначасна!

**Ігар Карашчанка**



Зьлева направа: А. Лаўрынавічэне, І. Карашчанка, У. Ваўкавыцкая. 1993 г.



Сям'я Антона Лукашэвіча з Кяны. 1942 г.

## *Я ведаю!*

*Я ведаю, надыйдзе час*
*І будзем мы «звацца людзьмі»,*
*А пакуль што мы б'емся за волю -*
*Ужо каторы раз.*
*Незважаючы на стысячы варожых вачэй,*
*Мы шпарка йдзем наперад,*
*Поплеч з намі -*
*Тысячы моцных плячэй!*
*Нас з табою нічым не стрымаць,*
*Бо мы ўмеем стаяць за сябе,*
*Стаяць за родных -*
*Ніхто не абароніць нас, апроч нас саміх!*
*Нам закрываюць простыя дарогі*
*І не дазваляюць дыхаць вольным паветрам,*
*Але мы пойдзем скрозь церні да зорак,*
*Упэўнена ступаючы.*
*Нас запалохвалі, нам дыктавалі,*
*Як жыць і што казаць,*
*Нам паказалі, на каго глядзець,*
*А потым, як быдлам, пачалі гандляваць...*
*Але нас нічым не зламаць,*
*Бо мы ўмеем стаяць за сябе,*
*Стаяць за родных -*
*Ніхто не абароніць нас, апроч нас сам іх!*
*Я ніколі не прыйму варожы герб!*
*Я ніколі не прыйму варожы сьцяг!*
*Я буду праліваць кроў за свабоду -*
*І спраўдзяцца нашыя сны!!!*

**вучань 7 клясы школы № 53 Менску**
**Бартлоў Васіль**

# Евангельле, якое чытаў Сьвяты Казімір

Вялікі князь ВКЛ Казімір (сын Соф'і Друцкай Гальшанскай) і ўнук каралевы Сьвяты Казімір (кананізаваны ў 1522 г.), верагодна, неаднаразова бывалі ў царкве Ўваскрэсеньня Хрыстова ў Вільні й трымалі ў руках сьвятую для іх рэліквію - Друцкае Евангельле. Напісанае ў старажытным Друцку, Евангельле потым некалькі стагодзьдзяў зьберагалася ў згаданай царкве ў сталіцы ВКЛ - Вільні. З тэксту апошняй старонкі Евангельля дакладна вядома, што ў сярэдзіне XV ст. малады князь Казімір меў у Вільні «чалавека божага» Аляксея, пад уплывам якога, напэўна, і склаўся сьветапогляд будучага манарха. Можна таксама з упэўненасьцю сьцьвярджаць, што ў Вільні Друцкае Евангельле зьявілася не выпадкова. Пра гэта, верагодна, паклапацілася маці 14-гадовага вялікага князя каралева Соф'я.

Ад таго часу прайшло шэсьць стагодзьдзяў. Адзін з апошніх укладальнікаў

і дасьледчыкаў Друцкага Евангельля акадэмік Міхаіл Мікалаевіч Ціхаміраў напрыканцы жыцьця пісаў: «Тэкст Евангельля пакуль што яшчэ нікім ня вывучаны зь лінгвістычнага пункту гледжаньня, хаця ён, несумненна, мае важнае значэньне для гісторыі беларускай мовы... Старое Евангельле захавала на сваіх аркушах каштоўныя гістарычныя зьвесткі, значэньне якіх для гісторыі Беларусі яшчэ цяжка ацаніць...»

Далейшыя крокі ў напрамку вывучэньня Евангельля зробленыя беларускімі навукоўцамі. У гэтым сэньсе найбольш значнай падзеяй напачатку новага стагодзьдзя можа быць першае поўнае выданьне тэксту Друцкага Евангельля ў кнізе «Друцк летапісны» (Мінск, БелЭн, 2001, 228 с., наклад 550 асобн.). Падзея гэтая тым больш значная, што арыгінал Друцкага Евангельля зьберагаецца ў Навасыбірску - за тысячы кілямэтраў ад Беларусі (Полацкія й Аршанскія Евангельлі - у Маскве, Санкт-Пецярбургу й Кіеве). Кніга багата ілюстраваная. У ёй пададзеныя гістарычныя й археалягічныя зьвесткі, назапашаныя за многія стагодзьдзі існаваньня старажытнага Друцку й Друцкага княства (цяпер вёска Друцк знаходзіцца на мяжы Талачынскага й Круглянскага раёнаў, адпаведна - Віцебскай і Магілёўскай вобласьцяў). Сёлета, у канцы жніўня - пачатку верасьня, Друцк адзначае сваё 1000-годзьдзе. Кніга будзе лепшым падарункам для ўдзельнікаў сьвяточных мерапрыемстваў і ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй Бацькаўшчыны.

навуковы супрацоўнік выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя»

**Р. Лянькевіч**

# Там, дзе мяне няма...

**7. Пачатак нямецка-савецкай вайны. Далейшая вучоба ў ВБГ. Вынішчэньне жыдоў. Беларускі Музэй.**

Уночы нас разбудзілі страшэнныя выбухі. Гэта немцы збамбардавалі лётнішча, зьнішчылі ўсе савецкія самалёты, асколкі разьляталіся ва ўсе бакі, малыя запальваючыя бомбы (без запальнікаў) разносіла выбухам за некалькі кілямэтраў аж у наш лес. Раніцой бацька пайшоў у горад. Выйшаўшы зь лесу, трэба было йсьці полем (цяпер тут будынкі домабудаўнічага камбінату, а тады было поле, засеенае жытам) па сьцяжынцы, якую пратапталі людзі, каб скараціць дарогу. Пасьля бацька распавядаў: «Іду і чую гул самалётаў нізка над галавой. Падняў голаў, а на самалётах чорныя крыжы. Значыць, вайна».

Савецкія войскі хутка адступілі, Вільні не баранілі. Дні праз два з кустоў выйшаў савецкі афіцэр, ён папрасіў вады, казаў, што баяўся паказацца, ня ведаў, якія тут людзі. Але, мусіць, пачуў ад нас у адрас немцаў ня дужа прыязныя словы й насьмеліўся паказацца на вочы. Яго накармілі, далі пераапрануцца ў нейкую вопратку, праўда, ня вельмі было з чаго выбіраць. Афіцэр пераапрануўся, узяў толькі свой наган і пайшоў. Якая яго спасьцігла доля, ня ведаю.

Немцы занялі Вільню. У іх адразу знайшліся й памагатыя сярод літоўцаў. Увялі карткі на прадукты, камэндацкі час, як надыходзіў вечар, хадзіць было забаронена. Пачаліся арышты. На Катэдральным пляцы паўсталі шыбеніцы. Павешаных не здымалі пару дзён, наганялі страх на людзей. Жыдоў сагналі ў гета, якое разьмясьцілася ў завулках паміж Завальнай і Нямецкай (Пілімо - Вокечу). Багацейшыя ўцякалі, але большасьць віленскіх жыдоў была скрозь бедната, куды йсьці?

Ад 1 верасьня пачала працаваць Беларуская Гімназія, цяпер поўная, польскія гімназіі немцы зачынілі, і мяйсцовыя палякі былі змушаныя аддаваць сваіх дзяцей у Беларускую Гімназію. Прыехалі гімназісты з Заходняй Беларусі - вабіла іх сюды добрая слава ВБГ. Сярод вучняў апынулася й некалькі татараў із зьбеларушчаных сем'яў. Гімназія месьцілася спачатку ў кляштарным будынку касьцёла Сьв. Кацярыны, а пасьля на Вастрабрамскай, 29 (Аўшрос Варту) ў браме. Тут-жа была й Расейская гімназія імя Пушкіна, і Беларуская настаўніцкая сэмінарыя.

Дырэктарам гімназіі быў спачатку Мікола Анцукевіч, а пасьля, ад 1942 і да канца 1944 г. - Францішак Грышкевіч. Апошні дырэктар ВБГ Францішак Грышкевіч быў абсальвэнтам гімназіі. Пасьля закончыў філялёгію на Карлавым Унівэрсытэце ў Празе, дзе абараніў доктарскую дысэртацыю. Ён прабаваў свае сілы ў публіцыстыцы й паэзіі, быў добрым аратарам. У 1941-1944 гг. выкладаў у гімназіі беларускую літаратуру й рабіў гэта зь вялікім майстэрствам. Ф. Грышкевіч зьвяртаў увагу вучняў ня толькі на зьмест літаратурнага твору, але й на ягоную форму, стылістыку. Беларускую літаратуру ён чытаў у эўрапэйскім кантэксьце, паказваючы нацыянальныя асаблівасьці беларускага прыгожага пісьменства й тое, што далучае яго да агульнаэўрапэйскай літаратуры. У жыцьці гэта быў дужа сьціплы й абаяльны чалавек. Як дырэктар гімназіі ён пакінуў самыя лепшыя ўспаміны ў сваіх падначаленых і вучнях. Ён, як і многія іншыя беларускія інтэлігенты-віленчукі, таксама стаўся ахвяраю бальшавіцкага тэрору.

Папоўніліся рады вучыцялёў. Беларускую мову ў малодшых клясах выкладала пані Алёна (Сакалова-Лекант), у старэйшых, як і беларускую літаратуру - Ф. Грышкевіч, матэматыку - Т. Матвеева й А. Карнач, фізыку - П. Радзюк, гісторыю - Р. Падабед, лаціну й лёгіку - М. Анцукевіч, рэлігію для каталікоў - кс. Адам Станкевіч, сьпеў - Л. Фёдараў, рысаваньне - ягоная сястра Вольга Фёдарава, гімнастыку - Л. Шырма. Працавалі яны шчыра, не шкадуючы сілаў, давалі вучням грунтоўныя веды. Не шанцавала толькі з настаўнікамі літоўскай ды нямецкай мовы. Літоўскую мову выкладалі людзі без спэцыяльнай адукацыі, не было ні падручнікаў, ні мэтодыкі выкладаньня. Нямецкую мову выкладала ў 1939-1941 гг. З. Новік, якая закончыла германістыку ў Віленскім унівэрсітэце й ня мела яшчэ вопыту працы. У гады нямецкай акупацыі нямецкую мову выкладаў нейкі «Volksdeutscher», які ставіўся да сваіх абавязкаў абыякава. Адно трэба прызнаць, што ён ніколі не займаўся прапагандай нацызму. Дый падручнік нямецкай мовы для беларусаў, выдадзены ў Бэрліне, быў нэўтральны ў параўнаньні з падручнікамі 1937-1938 гг., выдадзенымі ў Польшчы, дзе вялася яўная прапаганда «дасягненьняў» гітлераўскага рэжыму.

У гімназіі панавала добрая атмасфэра, прыязныя адносіны паміж вучыцялямі й вучнямі. На лекцыях карысталіся старымі падручнікамі, часткова выдадзенымі яшчэ ў Польшчы ці ў Літве, часткова савецкімі, у якіх зацтрыхоўваліся шмат якія партрэты й тэксты. Усе прадметы выкладаліся выключна па-беларуску, настаўнікі з вучнямі таксама гаварылі па-беларуску. Праўда, на перапынках некаторыя вучні размаўлялі паміж сабой на тутэйшай польскай мове. Ні ў клясах, ні ў дырэктара, ні ў настаўніцкай не было партрэта фюрэра. Усюды вісела «Пагоня». Зразумела, што новы дырэктар гімназіі Ф. Грышкевіч мусіў мець кантакты з акупацыйнымі ўладамі, аднак у гімназію не заглядвалі ніякія інспэктары ці камісіі.

У гімназіі не адчувалася, што гэта акупацыя. У той час вельмі ажывілася грамадзка-культурнае жыцьцё. Быў арганізаваны вялікі зьмешаны хор, якім кіраваў Л. Фёдараў, і невялі жаночы, якім кіравала В. Фёдарава. Рэпэртуар быў чыста беларускі. Ладзіліся вечарыны на 25 Сакавіка, на Каляды ды іншыя нацыянальныя сьвяты й юбілеі. Ясна, што гэтыя вечарыны праводзіліся днём, бо з надыходам цемнаты хадзіць па горадзе забаранялася. Гімназію часта наведваў ведамы віленскі кампазытар Канстанцін Галкоўскі. Ён чытаў лекцыі для старэйшых клясаў з гісторыі музыкі, граў свае творы або распавядаў пра свае задумы. Ён у той час працаваў над беларускай опэрай «Сымон-музыка». Лібрэта да яе Галкоўскі напісаў сам. Часта ён граў нам арыі са сваёй опэры, якая, на жаль, так і не была скончаная. Галкоўскі быў невялікага росту, лысы, як калена, калі дырыгаваў, дык крысьсё ягонага фраку лётала, як крыльле. Яго так і называлі: «maestro furioso». Ён сябраваў са слынным сьпеваком Міхасём Забэйдам-Суміцкім і быў ягоным сталым акампаніятарам, калі той прыяжджаў у Вільню. Прыезды М. Забэйды-Суміцкага былі сьвятам ня толькі для гімназіі, а й для ўсёй беларускай грамадзкасьці. Забэйда сьпяваў беларускія народныя песьні ў апрацоўцы Галкоўскага, ягоныя рамансы.



*Гімназісткі ВБГ гуляюць падчас перапынку на гімназіяльным падворку ў мячык. 1943 г.*

Затое ў горадзе акупацыя адчувалася вельмі моцна. І ня толькі рознымі абмежаваньнямі, прадуктовымі карткамі, чэргамі (на хлеб трэба было стаяць гадзінамі, заместа цукру давалі цукеркі-падушачкі, і тое не заўсёды). Найгорш было з адзежай і абуткам. Насілі пантофлі ці боцікі на драўлянай падэшве, верх - скура ці брээзнт. Зімой на падэшву набіваўся сьнег і можна было бачыць, як жанчына зьнімае з адной нагі боцік і абівае наліплы сьнег, потым тое самае робіць з другой нагой. На кавярнях і некаторых кінатэатрах павіліся надпісы «Нур фюр дойч!» - «Толькі для немцаў!»

Аднак нездарма ёсьць польская прыказка «Кому война, а кому кровь дойна». Разьвівалася спэкуляцыя, працьвітаў чорны рынак, дзе можна было купіць абсалютна ўсё. Нямецкія салдаты прадавалі хлеб і іншыя прадукты. Некаторыя з маіх сяброваў былі шыкоўна надзетыя, іхныя бацькі займаліся гандлем. Мае-ж бацькі былі няздольныя да колечыякіх гэшэфтаў. Бацька працаваў на будоўлі дарогаў. Як ня дзіўна, але немцы распачалі будоўлю той часткі дарогі, якая вядзе ад Ніжніх Панараў угару, а пасьля разгаліноўваецца ў трох напрамках. Старая-ж дарога, г. зв. «сэрпэнтына», ішла па сьпіралі, яна існуе й цяпер, але па ёй ніхто ня езьдзіць: унізе, напачатку дарогі, стаіць табліца, на якой напісана, што дарога ёсьць помнік будаўніцтва й знаходзіцца пад аховай дзяржавы. Усе работы вяліся ўручную, рыдлёўкамі, зямлю вазілі тачкамі. Бацька быў брыгадзірам. Захаваўся сяброўскі шарж, падпісаны: «Пану магістратові. Сакавік, 1942 г.»

Тонік ад 1942 г. працаваў у Беларусі ў Радашкавічах вучыцелем разам зь Юркам і Лявонам Луцкевічамі. Рэкамэндацыю ім даў Вацлаў Іваноўскі. Тонік выкладаў геаграфію, Юрка Луцкевіч быў дырэктарам школы, а Лявон выкладаў беларускую мову й літаратуру. Я-ж хадзіла ў гімназію. Кожнага дня йшла на заняткі празь лес, праз Дольную, тады па вуліцы Панарскай. На Дольнай я нярваз бачыла калёну жыдоў, якіх гналі на расстрэл на Панары. Ішлі яны замучаныя, старыя й малыя, мужчыны, жанчыны й дзеці, несьлі нейкія клункі, яшчэ верылі, што йдуць у «трэціе» гета. Ахова была сымбалічная: ззаду й сьпераду старыя нямецкі салдат-«фольксштурм» зь вінтоўкай. Але ніхто не прабаваў уцякаць. Былі выпадкі, калі людзі ўцякалі з гета. У нас жыла нейкі час цётка Луцкевічаў Вера, што выхоўвала Юрку й Лявона пасьля сьмерці маці. Пасьля яна выехала ў Беларусь, але нехта данёс на яе, і яе замардавалі. Зімой 1941-42 гг. жыў у нас нейкі доктар, пасьля недзе зьнік. А на каляды 1942 г. зьявілася цэлая жыдоўская сям'я, што ўцякла з гета. Прабылі ў нас некалькі дзён і пайшлі далей. Ясна, што мы вельмі рызыкавалі, бо за помач жыдам пагражаў калі не расстрэл, дык канцлягер. Але мы неяк ня думалі пра гэта. Хата была ў лесе, суседзяў не было, можа хто й ведаў, але не данёс. Карысьці нам ад нашай помачы не было ніякай, проста памагалі, як павінен памагаць чалавек чалавеку ў бядзе.

У 1943 г. працягвала сваю працу ВБГ, працаваў Беларускі нацыянальны камітэт, Беларускі Музэй ім. Івана Луцкевіча, дырэктарам якога стаў Янка Шутовіч. Немцы выселілі музэй з Базыльянскіх муроў, дзе ён знаходзіўся ад часу свайго стварэньня ў 1921 г., і перасялілі ў будынак Мастацкага інстытуту на вул. Сьв. Ганны, 4 (Майронё). Напрыканцы вайны над музэем навісла пагроза вывазу ягоных экспанатаў акупантамі ў Нямеччыну. І тады дырэктар і супрацоўнікі вырашылі прыхаваць самыя каштоўныя экспанаты. Вось як апісвае гэта ў сваіх успамінах Янка Шутовіч: «Узьнікла думка перавезьці цаньнейшыя экспанаты ў падвал касьцёла Сьв. Міхала - яна была абгрунтаваная й рэальная. Аднак выпаўненьне яе было зьвязана зь вялікімі тэхнічнымі труднасьцямі. Трэба было запакаваць экспанаты ў скрыні, арганізаваць транспарт. На просьбу дырэкцыі музэю зрабіў гэта незабыўны цясьляр і столяр дзядзька Кэпэль, стары беларус, быўшы даўгалетні старшыня Бацькоўскага камітэту ВБГ. Ператранспартыраваць скрыні ў касьцёл было нялёгкай справай, але калектыў музэю прылажыў свае сілы й гэта было зроблена. Цешыліся, што частку экспанатаў здалі ў апеку крышталёвай чысьціні чалавеку кс. Адаму Станкевічу, які быў у гэты час адміністратарам касьцёла Сьв. Міхала». Такім чынам фонды Беларускага Музэю ў Вільні былі захаваныя. Пагроза для ягонага йснаваньня прыйшла з зусім іншага боку. Але пра гэта крыху пазьней.

**8. Забойства Аляхновіча. 25-гадовы юбілей ВБГ. Вучоба ў расейскай школе й канец вайны. На бацькавай радзіме ў Вяраньках. Паступленьне ва ўнівэрсытэт.**

У пачатку сакавіка 1944 г. трагічнае здарэньне ўскалыхнула беларусаў Вільні - забойства Францішака Аляхновіча. 3 сакавіка, увечары, нехта пазваніў у дзьверы кватэры Аляхновіча, ён пайшоў адчыніць, праз хвіліну жонка пачула два стрэлы, а калі прыбегла, дык ужо нікога не было, а Аляхновіч ляжаў мёртвы. Ходзіць шмат меркаваньняў, хто гэта зрабіў: адныя гаворацць АК, другія - савецкія партызаны, трэція - самі немцы. Аднак, хто зрабіў гэты тэрарыстычны акт, так і застаецца невядомым.

Хавалі Ф. Аляхновіча на Эвангеліцкіх могілках на Малой Пагулянцы (цяпер вул. К. Каліноўскага). Гэтыя могілкі былі зьліквідаваныя ў 60-я гг. На іхным мейсцы цяпер невялікі парк і Палац шлюбаў. Праўда, сам Палац стаіць не на могілках, а там, дзе быў дом і сад агародніка-немца, які даглядаў могілкі. Могілкі заўсёды былі добра дагледжаныя. Зьлева ад уваходу на іх месьціліся магілы нямецкіх салдатаў, што загінулі падчас Першай сусьветнай вайны, узнагароджаных Жалезным Крыжам. Пасярэдзіне ляжала каменная пліта з выявай таго Жалезнага Крыжа, а наўкол - намагільныя пліты зь імёнамі, прозьвішчамі, датамі нараджэньня й сьмерці. У гэтым кутку могілак дрэвы не расьлі, тут ад вясны да вясны цьвілі кветкі.

Паховіны Аляхновіча былі тады дэманстрацыяй еднасьці беларусаў.



*Віленская Беларуская Гімназія й Беларуская Вучыцельская Сэмінарыя ў Вільні. 30 чэрвеня 1943 г.*

Старэйшыя людзі гаварылі, што пасьля паховінаў Ядзьвігіна Ш. у 1922 г. і Казіміра Сваяка ў 1926-ым не было такіх урачыстых паховінаў. Сабралася ня толькі ўся беларуская Вільня, прыехала шмат людзей зь Беларусі. За труною гімназісты ВБГ несьлі вянкі ад беларусаў, літоўцаў і нават немцаў, граў аркестар, ішло духавенства. Караван з труною цягнулі 4 коні. Маса людзей запоўніла невялічкія могілкі. Над магілай прамаўлялі старшыня Беларускага Нацыянальнага Камітэту др. Баляслаў Грабіньскі, Марыян Пецюкевіч, дырэктар ВБГ Франьцішак Грышкевіч ды інш. Магілу пакрылі вянкі й кветкі... Мне гэтыя паховіны запомніліся добра, бо я сама зь іншымі вучнямі несла вянок за труной Аляхновіча. У пачатку 90-х гг. Таварыства беларускай культуры атрымала дазвол на перапахаваньне Аляхновічана могілках Росы. Над ягонай магілай - помнік работы вядомага віленскага скульптара Эдварда Падбярэскага.

Раньняй вясной 1944 году гімназія сьвяткавала свой 25-гадовы юбілей. Нягледзячы на неспакойны час (фронт пасоўваўся на захад вельмі хутка), у гімназіі на Вострабрамскай, 29 (Базылянскія муры, дзе раней месьцілася гімназія, былі занятыя пад ваенны лазарэт) сабралася шмат ейных выпускнікоў. Людзі рознага веку, розных прафэсіяў і адукацыі прыехалі зь Беларусі, Польшчы, Украіны. Сярод іх былі слынная паэтка Натальля Арсеньнева, знакаміты цяпер вучоны Барыс Кіт, вядомы філёляг Янка Станкевіч, інжынер Л. Клімовіч, магістар права Янка Шутовіч, этнограф Мар'ян Пецюкевіч, браты Лявон і Юры Луцкевічы, Лена Шырма, Язэп і Чэслаў Найдзюкі, выдатны паэт Хведар Ільяшэвіч, Станіслаў Грынкевіч, Франьцішак Стэцкевіч, Леанід Галяк, Антон Шантыр, Янка Калубовіч, - усіх не пералічыць. Іх можна бачыць на здымку, зробленым на падворку гімназіі. Адбылася ўрачыстая акадэмія, былі прамовы, віншаваньні. Пані Алёна і ксёндз Адам, каторыя працавалі ад пачатку заснаваньня ВБГ, атрымалі ад Беларускай Цэнтральнай Рады мэдалі. Быў вялікі канцэрт, на якім у апошні раз у Вільні выступіў Міхась Забэйда-Суміцкі. Былі гутаркі, успаміны, і ніхто ня думаў, што гэта апошняе спатканьне, апошнія дні гімназіі...

Фронт падыходзіў штораз бліжэй. Закончыўся навучальны год, вучні разьехаліся. Пачаліся барбардаваньні Вільні, немцы, адыходзячы, спалілі дамы на адным баку вул. Нямецкай. Але дзеля гораду вялікіх баёў не было.

Падчас усіх гадоў вайны да нас у лес ніхто не заглядаў. Цяпер-жа зьявіліся АКАўцы, а пасьля савецкія сапёры. Афіцэры папрасілі дазволу абедаць і вячэраць у нас дома, ежу прыносілі з палявой кухні, ня толькі для сябе, але й для нас. Помню боршч, рыж з разынкамі. Паводзіліся афіцэры вельмі карэктна, ветліва. Ад'яжджаючы, пакінулі прадуктаў: сушонай бульбы, рыжу, проса.

Калі 1 верасьня прыйшоў час ісьці ў гімназію, дык высьветлілася, што ВБГ зачыненая. Хто пайшоў у польскія школы, а Соня Ваяводзкая, Соня Сіняўская, Канстанцыя Барткевіч і я - у расейскую. Сярэдняя школа № 6 была на плошчы Ажэшкі (цяпер Савівалдзібэс), у глыбіні, там, дзе цяпер будынкі дому ўраду. Тут выкладалі й вучыцялі з ВБГ П. Радзюк і Т. Мацьвеева. Школа была фактычна жаночая. У апошняй клясе быў толькі адзін хлапец, якога дзеля здароўя не ўзялі ў войска, дык з гэтага хлапца пасьля, калі ён ужо быў студэнтам мэдыцыны, сьмяяліся: «А, гэта той, што закончыў Жаночую школу!» У школе было шмат вучаніцаў з расейскай гімназіі ім. Пушкіна, толькі некалькі вучняў прыехала з усходу. Навука йшла нармальна, атмасфэра была добрая.

9 траўня закончылася Другая сусьветная вайна. Гэта была вялікая радасьць, хаця ніхто ня ведаў, што будзе далей. Экзамены на атэстат сьпеласьці прайшлі добра, бо мой папярэдні ўзровень навукі ў ВБГ быў якасны, і я ня мела цяжкасьцяў у вучобе. Усе іспыты, нават з расейскай мовы, якую я фактычна вучыла толькі 1 год, я здала на выдатна. У атэстаце ў мяне быда адзіная «4», якую перапісалі з пасьведчаньня ВБГ, гэта азначала - сярэбраны мэдаль і паступленьне ва ўнівэрсытэт без экзаменаў.

Адразу пасьля экзаменаў я паехала на бацькаву радзіму ў Вярэнькі. Потым я няраз думала, як гэта бацькі дазволілі мне, 17-гадовай дзяўчыне, ехаць адной. Толькі закончалася вайна, ехала шмат салдатаў, варочаліся бежанцы, вагоны былі перапоўненыя. Усё, аднак, абыйшлося. Даехала я да Буцлава, а пасьля пайшла пехатой па чыгунцы - трэба было вярнуцца назад. Калі ўбачыла вёску, дык пайшла, як казаў бацька, нацянькі, цераз балота.

Вёска Вярэнькі была вялікая, расьцягнулася ўздоўж вуліцы. Я запыталася: «Дзе тут хата Войціка?» А мне ў адказ: «Ды тут паўвёскі Войцікі!» Пасьля нехта агледзеў мяне больш уважна й сказаў: «Дачка Антося!» - я была падобная да бацькі. Завялі мяне да хаты дзядзькі Франука, зь ім жыла й ягоная маці, «бабуля Варэнская», як я яе называла. У дзядзькі былі тры дачкі. Найстарэйшая Франя, сярэдняя Таня й наймалодшая Тэрэза. Прынялі мяне вельмі гасьцінна. А мне было ўсё цікава, я-ж упершыню была на сапраўднай вёсцы. (Праўда, мяне бацькі прывозілі ў Вярэнькі, калі мне было 2 гады, але я гэтага ня помніла).

Было лета, жніво, усе рана выходзілі на работу ў поле. У хаце заставаліся бабуля й дзяўчаты. Бабуля варыла звычайна дзьве зупы, кіслую й прэсную, пякла бульбяныя бліны. Я зь дзяўчатамі (да нас таксама далучалася дачка майго другога дзядзькі Вацюка Валя) хадзіла ў лес зьбіраць маліны, чарніцы, дурніцы. Пасьля елі іх із сьвежым малаком. Гаспадарка была невялікая, але ўсяго ставала. Адно мне не спадабалася: у кожнай хаце гналі самагонку і ўвесь посуд прасяк пахам самагонкі.

Час на вёсцы прабег хутка, і я вярнулася дадому. Пара было здаваць дакуманты ва ўнівэрсытэт. Я падала на германістыку, чаму й сяганьня не магу растлумачыць, можа таму, што бабуня Міла прыгожа гаварыла па-нямецку. Свайго выбару я ніколі не шкадавала.

Мама вельмі перажывала, што ад Тоніка няма ніякіх вестак. Апошні раз мы яго бачылі ў 1944 г., калі ён прыяжджаў на юбілей ВБГ. Якраз у тым часе памерла бабуня Міла, нават доўга не хварэла. Мама паехала ў Радашкавічы, думала, можа там даведаецца пра Тоніка. Аднак ні Вера Ніжанкоўская, ні Кацярына Жэлязоўская нічога ня ведалі - так і вярнулася ні з чым.

1 верасьня 1945 г. я пайшла першы раз на заняткі ва ўнівэрсытэт. Група нашая была невялікая: адныя дзяўчаты, большасьць літоўкі, адна жыдоўка й я, беларуска. Заняткі былі на літоўскай мове, якой я тады дрэнна валодала. Але хапіла пары месяцаў, і я свабодна пачала гаварыць па-літоўску.

**Галіна Войцік**

*Працяг будзе*

# Прыказкі беларусаў аб французах з тлумачэньнем гістарычнага паходжаньня й сэнсу

Прыказкі ёсць прыклад алюзыўных тэкстаў (ад лацінскага allusio - згадка). У адрозьненьні ад нараціўных тэкстаў прыказкі апрача мэтафары мусяць найкарацей прыгадаць адрасату аб агульна вядомай падзеі. Вялікую ролю ў прыказцы выконвае эфэкт згадкі, асацыяцыі зь вядомай зьявай.

У народнай культуры беларусаў існавала пэўная сума ведаў аб французах («пранцузах»). Яна дазваляла простаму люду шырока карыстацца прыказкамі аб гэтым эўрапэйскім народзе. Адбылося гэта, у асноўным, дзякуючы простаму міжэтнічнаму кантакту беларусаў з французамі падчас вайны 1812 г. Але, зь цягам часу, урбанізацыя, сацыяльныя канфлікты XX ст. прывялі да значнага разбурэньня народнай культуры беларусаў. Прыказкі аб французах паступова страцілі сваю зразумеласьць, і, як наступства, большасьць зь іх зьніклі з сучаснага моўнага ўжытку беларусаў.

Як вядома, ў чэрвені-жніўне 1812 г. велізарная армія Напальёна (звыш 420 тыс.) заняла абшары Беларусі. З прыходам французаў аднаўляецца старабеларуская дзяржава - Вялікае княства Літоўскае. Напальён дае дазвол на стварэньне «Часовага праўленьня» - урада на адбітай ад Расеі тэрыторыі Беларусі й Літвы. Зь мяйсцовай беларускай шляхты, месьцічаў і селянаў стваракоцца асобныя легіёны-войска Вялікага княства Літоўскага, якія біліся супраць Расеі на баку Францыі. У той самы час у складзе расейскага войска таксама змагаліся беларусы: сяляне-рэкруты («некруты»), набраныя ў войска да 1812 г. тэрмінам на 25 гадоў. Такім чынам, у вайне дзвьюх імпэрыяў беларусы мусілі біцца супраць адзін аднаго. Мабыць таму тое наканаваньне беларускі люд назваў «няшчасным».[1]

Мэта нашага артыкула, створанага ў межах буйнога праекту «Французы ў народнай культуры беларусаў», пазнаёміць зь цікавымі прыкладамі этнакультурнага кантакту на народнам узроўні. Таксама, мы імкнемся прайлюстраваць інфармацыйныя магчымасьці фальклёрных крыніцаў, звычайна не заўважаных дасьледчыкамі палітычнай і вайсковай гісторыі.

***«Скакнуў як кароль Генрык за мора»*** - гістарычная фразэма даволі пашыраная ў творах старабеларускай літаратуры XVI-XVII ст. ст. (напрыклад, «Прамова Мялешкі»). Як вядома, Генрык Валуа (1551-1589), ці «Генрык Француз», як называлі яго ў Вялікам княстве Літоўскам, быў у 1574 г. абраны каралем польскім й вялікім князем літоўскім. Але праз 7 месяцаў нечакана дзеля ўсіх зьбег дахаты ў Парыж, дзе пад імем Генрыка III заняў французкі сталец. Як падкрэсьліла «Кроніка Магілева»: «.. панаваўшы толькі месяцаў семь Генрык збег да Францыі».[2]

Гісторыя з ад'ездам караля, зьнявага польскай й літоўска-беларускай кароны на карысьць французкай набыла шырокае гучаньне менавіта у ассяродзьдзі беларускай шляхты. Па-першае, было крыўдна, што кароль гэтак і не наведаў Літву. Па-другае, прычыны ўцёкаў Генрыка з Польшчы літвіны-беларусы бачылі ў дзяржаўнам безуладзьдзі Польшчы. «Sine rege-sine lege» («Няма караля - няма закону»), - казала шляхта. Яна лічыла, што непарадак у Польшчы ўрэшце загубіць і Вялікае Княства. Прыгадаем, што толькі 5 гадоў таму (1569 г.) адбылася Люблінская Вунія, якая злучыла Літву-Беларусь з Польшчаю ў вадно фэдэратыўнае гаспадарства. Але падчас падпісаньня Вуніі палякі сутыкнуліся з моцным супрацівам літвінаў. Пачаўся ціск. Сэнатары польскага сойму паказвалі літвінам паперэднія старажытныя дамовы (напрыклад, Гарадзельскі прывелей), але беларусы зьняважліва называлі іх «кудзелькамі».[3]

Нягледзячы на пагадненьне, сэпаратызм літвінаў захоўваўся. У 1588 г. пад рэдакцыяй вялікага гетмана Льва Сапегі быў надрукаваны па-беларуску асноўны звод законаў старабеларускага гаспадарства - Статут Вялікага княства Літоўскага. Ён дзейнічаў да сярэдзіны XIX ст. Дык вось гэты акт увогуле не згадваў Люблінскую Вунію (!), звыш таго, забараняў палякам, як і іншым чужаземцам, займаць дзяржаўныя пасады у Княстве.iv Застаючыся намінальна у хаўрусе з Польшчай, старабеларуская дзяржава захавала свой урад, межы, законы, войска, грашовую сыстэму, адміністрацыйны падзел. Мовай Княства (у тым ліку і ў этнічна балцкіх паветах) і далей заставалася старабеларуская ў кірылічнай транскрыпцыі. Такім чынам, прыказка «Скакнуў як кароль Генрык за мора» выкарыстоўвалася ў іранічных адносінах беларускай шляхты да палякаў і Польшчы. Таксама як іншыя: «Дажыліся палякі - ані хлеба, ні табакі», «Хуць да Кракава - усюды адзінакава».

***«Хоць ты мяне капут, то я не галём»***[5] («Хоць ты мяне забі, то я не пайду»). Каментуючы гэтую прыказку часоў вайны 1812 г., А. С. Фядосік і М. Я. Грынблат сцьвярджаюць, быццам менавіта так «з тлумачэньняў зьбіральнікаў», беларускі селянін-праваднік адказаў «французскім захопнікам»(?!).[6] Толькі цалкам не-

*Працяг на старонцы 6*

ГІСТОРЫЯ

# Прыказкі беларусаў аб французах з тлумачэньнем гістарычнага паходжаньня й сэнсу

*Працяг са старонкі 5*

зразумела, чаму тады беларус размаўляў на немецкай мове? Усапраўднасьці, першы зьбіральнік гэтай прыказкі, хутка пасля 1812 г., беларускі этноляг Ян Чачот меў зусім іншае тлумачэньне. Згодна сцьверджаньняў сялянаў, «так казалі немцы-праваднікі ў войску Напальёна».[7] Вядома, што у войску Напальёна служылі людзі розных народаў Эўропы, у тым ліку багата немцаў. Мы схіляемся да камэнтара першага зьбіральніка Яна Чачота. Заўвага беларускіх дасьледчыкаў савецкага часу, на нашую думку, тыповы прыклад ціску ідэалёгіі на навуку. У нашым выпадку гэта імкненьне на ўсіх прыкладах цьвердзіць толькі ўпартую барацьбу селянаў-беларусаў супраць французаў.

***«Ад французаў у месьце не было чутно ані звона, ані пеўня: першы быў забаронены, а другі - зьедзены».*** Гэтая гістарычная прыказка ўзнікла на падставе падзеяў з побыту французаў у Віцебску. Як вядома, 16 ліпеня 1812 г. шляхта й месьцічы Віцебску трыюмфальна сустрэлі Напальёна Банапарта. Маладзіцы літаральна засыпалі кветкамі імпэратара, каторы аднавіў Вялікае княства Літоўскае. Падчас трыюмфу французскае войска дабраславілі ня толькі каталіцкі і вуніяцкі біскупы, юдэйскі рабін, але нават праваслаўны ўладыка, архіепіскап Варлаам (Шышацкі). Прыгадаем, што менавіта ён лічыўся галоўным духоўным абаронцам расейскай улады ў Беларусі.

Уражаны гэтакім вітаньнем у Віцебску, Напальён прамовіў прызначанаму губэрнатарам маркізу Пастарэ словы, якія хутка набылі папулярнасьць: «Калі ласка, глядзіце на Літву й Беларусь, як на сяброўку, а не як на зваяваную краіну». Амаль усе жыхары Віцебску прынесьлі прысягу на вернасьць Францыі, атрымаўшы ў знак свае аддадасьці каляровую цэшку, якую яны павінныя былі прычапіць на рукаве. Трэба адзначыць, што новая ўлада адразу ўмацавала муры горада, зрабіла перапіс насельніцтва.[8]

Але хутка адносіны віцьбічаў да французаў зьмяніліся зь лепшых на горшыя. Па-першае, зыходзячы з собскіх стратэгічных мэтаў, французы пастанавілі зрабіць з усіх мураваных храмаў Віцебску абаронныя збудаваньні. На усіх званіцах былі знятыя званы («.. не было чутно ані звона..») й пастаўленыя гарматы, у храмах спыніліся набажэнствы. Усе гэта выклікала моцнае незадаволеньне вернікаў. Па-другое, найвялікшай за усю гісторыю Віцебску арміі трэба было тры разы на дзень есьці. Спакваля ўсе прыпасы харчаваньня ў горадзе скончыліся («у меьсце не было чутно...ані пеўня»). Жаўнеры пачалі праводзіць гвалтоўныя рэквізыцыі. Віцебскае паданьне распавядае, што «калі адзін поляк-генэрал з войска Францыі праходзіў праз гароды, ён пабачыў старую, якая нешта шукала. Спыніўшыся, ён запытаўся ў бабулі: «Чаго вы шукаеце?». Яна адказала, што гародніну, але хіба што застанецца пасля французаў? Тады генэрал запытаўся, ці быў калі ў жыцці старой такі цяжкі час? Тая прароча адказала: «Памятаю такі самы час, калі налецела на Беларусь саранча, якая ўсё вынішчыла, але прыйшла зіма і ўсе інсэкты раптоўна загінулі».[9] Такім чынам, калі французы выпраўляліся зь Віцебску на Маскву, адносіны да іх у месьце ўжо панавалі кепскія. Менавіта гэта й захавала нашая прыказка.

***«Каб француз пабіў Маскаля, дый сам не вярнуўся».*** Гістарычны фразэалягізм, які датычыцца адносінаў беларускіх сялянаў да канфлікту абодвух Імпэрыяў. Як вядома, інкарпарацыя Вялікага княства Літоўскага ў склад Расейскай імпэрыі ў канцы XVIII ст. пагоршыла стан беларускіх сялянаў. Узмацніўся прыгон, шмат каралеўскіх сялянаў было раздадзена буйным расейскім землеўладальнікам. На літоўскія й беларускія губэрніі было распаўсюджанае рэкруцтва. Гаворка пра тое, што у Вялікам княстве Літоўскім, як і ва ўсёй Рэчы Паспалітай, сяляне ніколі не забіраліся прымусова у войска. У Расейскай імпэрыі яны павінныя былі даць рэкрутаў на доўгіх 25 гадоў службы, пасля якой жаўнер не атрымліваў надзелу зямлі. Пачалася зьмена ўласных культурных кодаў. Усе гэта выклікала досыць прахалодныя адносіны беларускіх сялянаў, большасьць зь якіх не былі нават праваслаўнымі, да адносна новай «маскоўскай» улады. Згодна падання, «калі Напальён ішоў на Маскву, ён па дарозе сустрэў бабулю, якой загадаў спыніцца, і запытаўся, як на яе думку лепш: каб француз разьбіў расейца, ці расеец француза? Старая, пачухаўшы патыліцу, адказала: «На маю думку добра, каб француз захапіў Маскву й пагнаў расейцаў далей, пагнаў, пагнаў дый сам не вярнуўся!»[10]

**Андрэй Катлярчук**

1 Гл.:Легенды й паданні. Менск. 1983. №734. С. 443.

2 Могилевская хроника.// Полное собрание русских летописей. Т. 35. Летописи белорусско-литовские./ Составил Н. Н. Улащик. Москва. 1980. С. 240.

3 Коялович М. Люблинская уния или последнее соединение Литовского княжества с Польским королевством на люблинском сейме в 1569 году. Санкт-Петербург.1863. С.30-31; «па кудзелі» беларусы з гіроніяй называлі радавод па жаночай лініі ў адрозьненьні ад сапраўды каштоўнага радаводу «па мечу», гэта значыць па бацьку.

4 Разьдзел 3, артыкул 12.// Статут ВКЛ. Мінск. 1989. С.118.

5 «kaput»-нямецкае «забі»; «галём» - скажонае французскае «allong» - «ідзем».

6 Прыказкі і прымаўкі. У дзьвюх кнігах// Пад рэдакцыяй А. С. Фядосіка і М. Я. Грынблата. Кн. 1. Мінск. 1976. №2707. С. 555.

7 Чачот Я. Наваградскі замак. Менск. 1989. С.218. 1 выданьне. Wilno. 1846.

8 Спіс жыхароу Віцебска 1812 года. // Віцебскій сшытак.1997. № 3. С. 122-136.

9 (Киркор А.) Живописная Россия. Литовское и Белорусское Полесье. Т. 3. Ч. 1-2. Минск. 1994. С. 311. ( 1 изданіе. Санкт-Петербург. 1882.).

10 Ластоускі В. Ю. Кароткая гісторыя Беларусі. Вільня. 1910. С.55.

ЛІТАРАТУРА

# Душа Тырана

*Заканчэньне. Пачатак у № 39, 41*

* * *

Той чорны дзень для Тырана пачынаўся надзвычай дрэнна ўжо з самай раніцы. Раніцай, як звычайна, Тыран гуляў разам са сваімі целаахоўнікамі ў хакей. Гэта была ягоная найулюбёнейшая гульня. Дзеля таго, каб Тыран меў магчымасьць кожную раніцу ганяць шайбу, у ягонай рэзыдэнцыі нават быў пабудаваны лядовы палац. Дык вось, у той дзень усё складвалася зусім ня гэтак, як было патрэбна. Калі Тыран, як звычайна, завалодаў шайбай ды пагнаў яе да варотаў праціўніка, адбылося неверагоднае: шайба ў варотах не апынулася! Ягоны целаахоўнік, якому дагэтуль ён давяраў больш, чым каму іншаму, паставіў клюшку на шляху шайбы ды адбіў яе. Ад нечаканасьці Тыран пасьлізнуўся й добра-такі гэпнуўся мяккім месцам аб лёд. Да яго адразу-ж падбеглі астатнія целаахоўнікі, кожны намагаўся ўхапіць Найвялікшага ды памагчы яму падняцца на ногі, але замест гэтага яны толькі штурхалі адзін аднаго, а Тыран, якому заміналі цяжкія дасьпехі, толькі коўзаўся па лёдзе, злуючыся ўсё больш ды больш. Нарэшце ён падняўся на ногі. Няўдачлівага брамніка на полі ўжо не было. Тыран прасіпеў:

- У кабінэт!

Целаахоўнікі, зноў штурхаючы ды замінаючы адзін аднаму, кінуліся цэлым натоўпам да Тырана. Кожны хацеў быць бліжэй да Найвялікшага. Можа, заўважыць, можа, не забудзе пры нагодзе.

Асьцярожна, як цяжка хворага, Тырана падхапілі пад абедзьве рукі ды паціху павялі ў той бок, дзе разьмяшчаўся велізарны, шыкоўны кабінет Уладара. Па дарозе ім трапілася толькі адна сакратарка, дый тая спалохана шуснула некуды ў бліжэйшыя дзьверы. Тырану не падабалася, калі пад нагамі без патрэбы круціліся староньнія.

Як толькі за апошнім Целаахоўнікам зачыніліся дзьверы й Тыран застаўся адзін, ён мог нарэшце ні ад кога не хаваць свае пачуцьці. Ён ускочыў з канапы, куды яго клапатліва паклалі, сарваў зь ілба ды закінуў у кут мокрую анучу. Пачаў разьюшана бегаць з кута ў кут. Хіба ж гэта магчыма?! Каб ягоны ўласны Целаахоўнік падклаў яму гэтакую свіньню! Не прапусьціць шайбу самаго Тырана ў вароты! Тыран падскочыў да патаемнага званка. Такіх званкоў у ягоным кабінэце было некалькі. Кожны зь іх выклікаў аднаго з патрэбных людзей і выклікаў гэтак, каб пра тое больш ніхто ня ведаў. Гэта была адна з шматлікіх прыхамацяў Тырана.

Праз хвілю ў кабінэце бясшумна рассунулася адна сьцяна, з праёму сьцярожка вылез (менавіта вылез, а не выйшаў, бо хадзіць яму было цяжкавата праз кароткія ножкі ды велізарне бруха) Галоўны Банкір. Сьцяна зноў прыняла свой першапачатковы выгляд.

- Калі ты пералічваў мае грошы? - запытаў Тыран.

- Гадзіну таму, Найвялікшы. Я тры разы на дзень пералічваю твае грошы, як ты загадаў.

- Шмат у мяне грошай?

- Калі загадаеш, Найвялікшы, зараз-жа будзе яшчэ больш.

- Пакуль што ня трэба, - літасьціва дазволіў Тыран, - лепш адкажы: як жыве мой народ?

- Народ славіць цябе, Найвялікшы.

- У каго больш грошай, чым у мяне?

- Такога чалавека не йснуе! - Банкір не хаваў свайго зьдзіўлення ад пытаньня Тырана. - Будзь упэўнены, Найвялікшы, мае людзі дзень і ноч адсочваюць усе рахункі, якія йснуюць і ў нашай краіне, і за мяжою. Ты - самы багаты ў сьвеце чалавек.

- Добра, ідзі пакуль што.

Галоўны Банкір як мага хутчэй адсунуўся да той часткі сьцяны, адкуль нядаўна выпаўз. Затрымлівацца было зусім ня варта, бо Тыран мог і передумаць.

Калі за Галоўным Банкірам зноў зачынілася сьцяна, Тыран прылёг на канапу. Яму лепш думалася, калі ён дзе-небудзь ляжаў. Думкі тады йшлі роўнай чарадой, не пераскоквалі адна адну. Ён верыў Банкіру. Той не ілгаў наконт таго, што ў сьвеце няма больш багатага чалавека, чым ён. Банкір проста не насьмеліўся-б зманіць, бо добра ведаў, што лепш паведаміць праўду, бо гэтак больш бясьпечна.

Калі не йснуе ў сьвеце чалавека, які мог падкупіць Целаахоўніка, дык чаму-ж тады ён не прапусьціў у вароты шайбу? Гэтае пытаньне ўсё больш турбавала Тырана. Ён адчуваў, што калі ня знойдзе адказу, дык ня зможа надалей жыць спакойна. У ягонай дзяржаве не здаралася яшчэ выпадку, каб прайшло нешта такое, што не было запланаванае ім самім. Калі Целаахоўніка не падкупілі, што тады?!

Тыран націснуў на яшчэ адзін званок. Пальцы ягонай вялікай дужай рукі чамусьці дрыжэлі. Празь імгненьне расступілася сьцяна зь іншага боку. З патаемнага ліфта порстка выскачыў зухаваты, рухавы, нібы міркіль, Галоўны Жандар. Паправіў жалезную каску на галаве, зь якой ніколі не раставаўся (казалі, ён у ёй нават спаў), шчоўкнуў абцасамі наваксаваных ботаў. Падрыхтаваўся слухаць.

- Што з Целаахоўнікам? - запытаўся Тыран.

- Ён там, дзе трэба, Найвялікшы.

- Што кажа?

- Кажа, што Ён незнарок затрымаў Вашую шайбу. Ён - прафэсыйны хакеіст. Нядаўна яшчэ гуляў за зборную краіны. Быў лепшы абаронца. Затрымаў шайбу проста аўтаматычна.

- Што азначае «аўтаматычна»?

- Гэта азначае, што ён проста выканаў той прыём, якому яго навучыў трэнер.

- А што з трэнерам?

- Трэнер сёньня раніцай ехаў на стадыён, але чамусьці не даехаў. Згубіўся недзе ў дарозе.

- А ці ёсьць якія паведамленьні пра Галоўнага Апазыцыянэра?

- Ён за мяжою.

- Магчыма, ён зьвязаны з гэтым Целаахоўнікам?

- У нас такіх зьвестак няма, але мае людзі яшчэ раз усё праверацць і я адразу-ж Вам паведамлю, калі нешта высьветлю.

Тыран махнуў рукою, даючы знаць Галоўнаму Жандару, што той пакуль што свабодны. Галоўны Жандар зноў шчоўкнуў абцасамі. На тым месцы, дзе хвіліну таму яшчэ зеўрыла бяздоньне ліфта, зараз зноў шарэла суцэльная сьцяна.

Тыран злаваў. Яму было душна, не хапала паветра, хоць шматлікія вентылятары круціліся безь перастанку. Перасыхала ў горле. Тыран наліў у крышталёвую шклянку вады, хацеў выпіць, але раптоўна яму страшэнна захацелася спаць. Вочы заплюшчыліся самі сабой, з аслабелых пальцаў высьлізнулася ды са звонам упала на падлогу крышталёвая шклянка. Па падлозе пад стол пакаціліся дробныя аскепкі.

* * *

Тырану сьнілася, што ён зноў гуляе ў хакей. Раптам на полі замест патрэбнай колькасьці хакеістаў апынулася безьліч народу. Усе яны былі падобныя да таго Целаахоўніка, які затрымаў ягоную шайбу. Проста адзін твар! У кожнага ў руках клюшка. Каля кожнага на лёдзе ляжала чорнай плямкай шайба, безьліч шайбаў. Тыран чамусьці быў на варотах, хоць дагэтуль ён ніколі на варотах не стаяў.Усе адначасова ўдарылі па шайбах і чорны, балючы дождж пасыпаўся на Тырана. Адна чорная кропка пацэліла проста ў лоб, паміж вачэй. У вачах спачатку выбухнула яркая бліскавіца, затым раптоўна пацямнела.

Тыран больш не прачнуўся.

* * *

Сьвяты Пётра, як звычайна, сядзеў каля райскай брамкі. Вадзіў па стале «мышкай», уважліва ўглядаўся ў блакітны экран манітору. Кампутарам карыстацца яго навучыла адна Душа, якая на Зямлі яшчэ нядаўна была вядомым кампутаршчыкам. Недзе зь месяц таму яго забілі канкурэнты. Зараз Душа былога кампутаршчыка закінула кампутарную справу, занялася вырошчваньнем райскіх кветачак, але Сьвятога Пятра калінікалі кансультавала, не хацела назусім страціць кваліфікацыю.

На экране манітору паказалася ў левым куце нейкая кропка. На стале побач з кампутарам зазьвінеў мабільны тэлефон.

- Пётра, - пачуўся голас Усявышняга, - затэлефануй ў пекла. Няхай прымаюць кліента. На гэты раз назаўсёды...

**Лілея Сазанавец**

## Беларускае Гістарычнае Згуртаваньне ў Аўстраліі

ўзьнікла ў 1999 г. і афіцыйна зарэгістраванае ў 2000 г. Фінансавую дапамогу на станаўленьне Згуртаваньня аказалі ўсе беларускія арганізацыі Аўстраліі (за выключэньнем адной, якая адмовілася гэта рабіць). Згуртаваньне ёсьць арганізацыя дабрачынная і ўся ейная дзейнасьць існуе на асновах дэмакратычнага супрацоўніцтва. Мэты Згуртаваньня:

1. Зьбіраць, архіваваць і зьберагаць калекцыю кніг, дакумантаў і фотаздымкаў, што адлюстроўваюць жыцьцё беларускіх арганізацыяў і беларускіх эмігрантаў у Аўстраліі.

2. Зьберагаць беларускую культурную спадчыну беларускіх эмігрантаў у Аўстраліі для будучых пакаленьняў.

3. Друкаваць кнігі, часопісы ды інш., а таксама у электроннай форме публікацыі пра беларусаў і беларускія арганізацыі ў Аўстраліі.

4. Падтрымліваць сувязі зь беларускімі арганізацыямі ў Аўстраліі й за морам, а таксама з этнічнымі супольнасьцямі Аўстраліі.

5. Мець легальныя правы валодаць маёмасьцю.

6. Арганізоўваць розныя сацыяльныя й нацыянальныя акцыі маральнага характару.

Старшынём Згуртаваньня зьяўляецца **айцец Міхаіл Бурнос**. Напішу коратка пра яго. Айцец Міхаіл Бурнос нарадзіўся ў вёсцы Лясок, Карэліцкага павету Гарадзенскай вобласьці 12 кастрычніка 1924 г. Скончыў пачатковую школу ў Запольлі. Зь дзяцінства грае на гітары й мандаліне. У часе II Сусьветнай вайны вучыўся ў Наваградзкай настаўніцкай сэмінарыі, у якой афіцэр Барыс Рагуля выкладаў ваенную справу. Быў сябрам Саюзу Беларускай Моладзі (СБМ). У Аўстралію прыехаў у 1949 г. Адзін зь першых беларусаў Адэляйды, хто браў удзел у стварэньні камітэту й статуту Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, у якой быў сьветарам да 7 ліпеня 1999 г. Заснавальнік танцавальнай групы «Лявоніха» й арганізатар культурнага жыцьця беларускай грамады Адэляйды напрацягу многіх дзясяткаў гадоў.

Я, **Віктар Кавалеўскі**, зьяўляюся сакратаром БГЗуА. Некалькі словаў пра сябе.

Нарадзіўся 11 студзеня 1956 г. у гарадзкім пасёлку Радашкавічы, Маладзечанскага раёну, Менскай вобласьці. У 1973 г. скончыў менскую школу № 72, у 1976 г. - Краснаярскае ваеннае вучылішча. Атрымаўшы ранг лейтэнанта-тэхніка, служыў у Кыргызстане й Казахстане каманьдзірам радыётэхнічнага ўзводу разьведкі. Аддаў партыйны білет у 1981 г. Пасьля таго, як дамогся звальненьня са службы з прычыны «службовай неадпаведнасьці», рабіў інжынерам-тэхнолягам на радыётэхнічным заводзе «Калібр», тэхнікам, фатографам газэты таго самага заводу. Скончыў Маскоўскія завочныя курсы дакумантальнага кіно. З 1992 г. жыву зь сям'ёй у Аўстраліі. Надрукаваў кнігу «Беларусы ў Адэляйдзе». У 1999 г., пасьля двухгадовай працы сакратаром, выбраны старшынём Беларускага Аб'еднаньня ў Паўднёвай Аўстраліі. З 1994 г. працую вадзіцелем.

У цяперашні час ідзе праца над кнігай «Беларусы Аўстраліі. Першы погляд». У працы над кнігай актыўны ўдзел бяруць, акрамя айца Міхаіла, таксама **Паўла Гуз** (Старшыня БЦК зь Мельбурну), **Аўген Груша** (Старшыня Фэд. Рады зь Мельбурну) й **Алег Шнэк** (прадстаўнік БВФ). У пачатку гэтага года я езьдзіў у Мельбурн да сп. Грушы й прывёз адтуль архіўныя матар'ялы многіх беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі, на падставе чаго й пішацца кніга.

Больш інфармацыі пра беларусаў Аўстраліі можна знайсьці на маёй інтарнэт старонцы: *www.picknowl.com.au/homepages/viktor/index.html*

**Віктар Кавалеўскі**
*Адэляйда*

## Прачытаўшы артыкул

«Не молчи - попадёшь в палачи!» («Рунь» № 41), вырашыу напісаць пару словаў у Вашую газэту. Я магу зразумець гнеў спн. Надзеі Банчык, якая напісала артыкул у калабарацыі з сп. Уладзімірам Крылоўскім. Поўнасьцю падрымліваю гэтых людзей у крытыцы Расеі, якая да сёньняшняга дня прытрымліваецца імпэрскай палітыкі. Аднак, калі справа заходзіць да абвінавачаньня заходніх дэмакратыяў, дык тут я згадзіцца з амэрыканскімі беларусамі не магу (названыя аўтары артыкула у сапраўднасьці ёсьць амэрыканская расейцы! - заўв. рэд.). Палітыка ёсьць справа складаная, і людзі, якія ёй займаюцца таксама не вельмі простыя: іх за плечы не возьмеш і не запытаесься «А што ты такое зрабіў, спадар Клінтан, каб адагнаць Расею ад Чэчэніі? Атакуючы дэмакратычныя сілы заходу, Надзея і Ўладзімір забыліся напісаць пра тое, што менавіты гэтыя сілы зараз трымаюць пад сьледствам Мілошавіча й яговых лейтэнантаў. І гэта ўпершыню ў гісторыі чалавецтва, бо пад сьледзтва патрапіў былы кіраўнік дзяржавы (нават, калі ён і не прызнае гэтае сьледзтва). Ці-ж ня гэта ёсьць доказ працы заходняй дэмакратыі?

Ну, і апошняе. Надзея і Ўладзімір напісалі: «Паводзіны заходніх дэмакратыяў у пытаньні Чэчэніі вельмі нагадваюць іхнае пасьляваеннае стаўленьне да Сталіна: «Якбы чаго, ня дай Бог, не выйшла!» Памятаеце, як у 45-м Захад «здаў» Сталіну казакаў...» Хацеў-бы сказаць, што агульнае слова "Захад" тут ніяк не пасуе, таму што трэба ў такіх абвінавачаньнях пісаць больш канкрэтна. А канкрэтным будзе тое, што менавіта брытанцы адправілі 31 кастрычніка 1944 г. у напрамку на Мурманск 10 тыс. савецкіх ваеннапалонных, а амэрыканцы, у свой чарод, адправілі многіх савецкіх з сваіх лягероў з Англіі ў ЗША. Можа Надзея і Ўладзімір ведаюць іхны лік? А брытанцы мелі тады вельмі сур'ёзныя падставы думаць «як-бы чаго ня выйшла», бо Саветы вызвалілі вялікую колькасьць брытанскіх ваеннапалонных і Сталін мог вельмі лёгка іх «прытрымаць». Дый хто мог асьмеліцца ў той час парушыць дамову ў Ялце?

Што датычыцца казакаў, дык калі-б многія зь іхных батальёнаў не былі-б пад прамой камандай СС, дык, можа, нешта было-б і па-іншаму. Калі атаман Даманаў здаўся брытанцам 16 мая 1945 году, ён меў 15 380 казакаў, 4 193 жанчынаў і 2 436 дзяцей. Хто з брытанцаў ведаў тады, хто яны ёсьць, гэтыя «казакі»? Як нічога яны ня ведалі й пра здаўшыеся ў палон батальёны югаслаўскіх «чэтнікаў», расейскіх «уласаўцаў», украінскіх нацыянальных «самаахоўнікаў» й «паўстанцаў», літоўскія, латышскія й эстонскія батальёны бясьпекі, батальёны харвацкага «дамабранства» ды балгарскія батальёны, якія чамусьці запаздалі перайсьці да Сталіна? А тут падыйшлі партызаны Ціта й пачалі паляваньне на чэтнікаў, не зважаючы на брытанцаў... Што робіцца? Хто за каго? Ніхто з брытанцаў і амэрыканцаў нічога ня ведаў пра розныя палітычныя напрамкі й барацьбу. Трэба дадаць, што да таго-ж соўгаліся па дарогах адпушчаныя вязьні канцлягероў, працягвалі ваяваць хлапчукі з «Гітлерюгенда», якія ніяк не хацелі здавацца. Можна толькі дзіву давацца, як амэрыканцы й брытанцы зрабілі нейкі парадак ды пачалі карміць тысячы й тысячы людзей.

Сёньня можна абвінавачваць брытанцаў у перадачы казакаў у рукі НКВД. Але такі прыклад: каманьдзір 38-й (ірляндзкай) брыгады Т.П. Скотт даў слова афіцэра атаману Карлу Салм-Хорстмару, што ніхто зь яговых 400 казакаў ня будзе перададзены Саветам. Праз некалькі дзён ён знайшоў ад свайго каманьдзіра генэрал-лейтэнанта Кейтлі, што існуе Ялцінская дамова, паводле якой ніхто ня мае права трымаць казакаў і яны будуць перададзеныя ўсе. Як вы думаеце адчуваў сябе пасьля гэтага каманьдзір 38-й брыгады? Даў слова афіцэра, а тут - на табе!

Дадамо, што калі-б амэрыканцы не «падагнулі-б» Ялцінскую дамову (20 сьнежня 1945 г.) да «трох катэгорыяў да рэпатрыяцыі», перад гэтым не прыастанавіўшы гвалтоўную рэпатрыяцыю (жнівень 1945 г.), - дык колькі-б яшчэ тысячаў і тысячаў людзей паехала ў Сыбір? Калі-б Папа Рымскі не надрукаваў свой пратэст (20 лютага 1946 г.) аб рэпатрыяцыі людзей супраць іхнай волі й аб незабясьпечаньні іх сховішчам, дык колькі-б дадатковa ахвяраў перадалі ў рукі НКВД? Ці ня гэта ёсьць твар дэмакратыі?

Што датычыцца перададзеных Хрушчову й Брэжневу перабежчыкаў з СССР, якіх ЗША ды іншыя «заходнія дэмакратыі» перадалі назад у рукі камуністаў, дык ня маю ніякай інфармацыі пра гэта. Можа Надзея і Ўладзімір напішуць артыкул пра гэтыя падзеі? А вось каб напрыканцы сказаць, што аўтары згаданага артыкулу атакуюць заходнюю дэмакратыю залішне, дадам, што ў траўні 1952 г. прадстаўнікі АН адмовіліся перадаваць ваеннапалонных Кітаю й Паўночнай Карэі, чаго так хацелі камуністы. Ніяк гэта не падпадае пад тое, каб назваць дэмакратаў Захаду «хаўрусьнікамі злачынстваў» ні тады, ні цяпер!

**Віктар Кавалеўскі**
*Сакратар Беларускага Гістарычнага Згуртаваньня ў Аўстраліі*

# Нацыяналіст сёньня ў Беларусі ёсьць гонар краіны!

### Гутарка з чальцом Сойму ЛР Вацлавам Станкевічам, міжнародным назіральнікам за прэзыдэнцкімі выбарамі ў Беларусі

**– Спадар Вацлаў, з чым Вы вярнуліся зь Беларусі?**

– З болем. Вельмі балюча было чуць у свой адрас абразы з той нагоды, што я размаўляю па-беларуску. Аднаго гэтага мне было дастаткова, каб зразумець, што Беларусі неабходна яшчэ многа прайсьці, каб зразумець, што нацыяналіст сёньня ў Беларусі ёсьць гонар краіны, для якога боль за Беларусь - боль душы! На маю думку, лекамі ад гэтага болю зьяўляюцца дэмакратыя й дабрабыт народу...

**– Ад якой арганізацыі Вы бралі ўдзел як незалежны назіральнік?**

– Ад Рады Эўропы, бо ўваходжу ў гэтую місію. Ад 9 верасьня я назіраў за выбарамі на роднай мне Ашмяншчыне й Смургоншчыне.

**– І як прайшлі выбары 9 верасьня?**

– Што тычыцца менавіта гэтага дня, дык усё было заарганізавана надрэнна. Аднак тут трэба памятаць, што выбары ў Беларусі фактычна распачаліся 4 верасьня! Напрацягу цэлых 6-ці сутак выбараў днём на ўчастках дазвалялася знаходзіцца ня больш як двум назіральнікам, а на ноч назіральнікі выдаляліся з участкаў, вурны недзе там трымаліся, нібыта пад аховай міліцыіі... Зразумела, такая сытуацыя з папярэднім галасаваньнем не задавальняла назіральнікаў з дэмакратычных краінаў. Такім чынам, улады перад 9 верасьнем мелі шмат магчымасьцяў для махлярства й падтасовак...

**– Ці паінфармавалі Вы пра гэта літоўскі ўрад?**

– Безумоўна. З нашага боку ў Беларусі былі яшчэ два чальцы Сойму: сп. Сядліцкас і сп. Квяткаўскас. Іхныя меркаваньні пра выбары ў Беларусі ў цэлым супадаюць з маімі.

**– Мабыць ужо склаўся афіцыйны пункт гледжаньня Літвы наконт выбараў у Беларусі?**

– Я ўжо чытаў пра тое, што мяркуе наконт гэтага старшыня Сойму сп. Паўлаўскас, чуў па тэлівізіі думкі прэзыдэнта Адамкуса. На іхную думку, выбары ў Беларусі - недэмакратычныя. Аднак і Паўлаўскас, і Адамкус усьлед за іншымі эўрапэйскімі інстытуцыямі сцьвярджаюць, што неабходна зьняць ізаляцыю Беларусі, маўляў, яна грае выключна на карысьць Лукашэнкі, але не насельніцтву краіны.

**– Вы ўжо абмяркоўвалі пытаньня зьняцьця ізаляцыі зь Беларусі зь іншымі літоўскімі парлямантарыямі?**

– Так. І прыйшлі да высновы, што, сапраўды, ізаляцыя працавала на , і што скасаваньне ізаляцыі дапаможа разьвіцьцю дэмакратыі ў Беларусі. Так лічыць і пераважная большасьць прадстаўнікоў з краінаў Эўропы.

*Гутарыў* **Андрусь Старавойтаў**



✝ **Выказваем жаль з нагоды сьмерці**

**Надзеі Акулы (Вернай)**, беларускай дзяячкі з Канады, жонкі вядомага пісьменьніка Кастуся Акулы.

*Сябры рэдакцыі газэты «Рунь»*



*У віленскай царкве Сьв. Мікалая (Джыджойі, 12) распачаліся рэгулярныя набажэнствы па-беларуску. Яны адбываюцца штосуботы аб 9-ай раніцы. Адпраўляе набажэнствы айцец Васілі Навінскі. Вернікі-беларусы шануюць яго ня толькі за пашану да роднае мовы, але найперш за мудрую навуку. Прапануем адно з казаньняў айца Васілія.*

# У нядзелю сёмую пасьля Пяцідзесятніцы

## (Матфей IX, 27-35)



«І хадзіў Ісус па ўсіх гарадох і папаселішчах, вучачы ў сінагогах іх, прапаведаючы Дабравесьце Царства і ацаляючы ўсякую хваробу і ўсякую немач у людзях» (Мф. 9, 35).

Такімі вось словамі, як вы чулі, заканчваецца Дабравесьце, якое чытаецца ў гэтую нядзелю. Для вуха й сэрца веруючага чалавека - гэта вельмі прыемныя словы; міжволі хочацца ўсклікнуць: «Які цудоўны, які выдатны быў час!»... Вось сьляпыя прыступаюць да Ісуса, просячы аб ацаленьні: «Ці верыце, што я магу зрабіць гэта?» - пытаецца ў іх Гасподзь. «Так, Госпадзі!» - адказваюць яны. Тады Хрыстос кранаецца вачэй іх і гаворыць: «Па веры вашай хай будзе вам». І ў той час адкрыліся вочы іх. Вось нямы чалавек, калі яго прывялі да Ісуса, пачынае гаварыць...

Ці-ж ня цуд усё гэта?! Безумоўна, цуд. Але ў наш час да гэтых цудоўных падзеяў людзі адносяцца па-рознаму. Адны, веруючыя, з зачараваньнем, але трошкі і з шкадаваньнем, кажуць: «Дзе-ж вы падзеліся, тыя цудоўныя дні!» Іншыя, асабліва няверуючыя, зь вялікай доляй скепсісу кажуць: «Усё гэта - справы даўно прамінулых дзён, «преданье старины глубокой»». «Дзе сёньня гэтыя цуды? Чаму няма іх сёньня?» - гавораць яны. І у падобных пытаньнях ёсьць праўда й няпраўда.

Няпраўда, што цудаў няма ў наш час. Яны ёсьць і ёсьць іх нямала. Апошнімі гадамі, напрыклад, мы ўсё часьцей і часьцей чуем пра тое, што пачынаюць сачыць міра іконы, і ад гэтага міра многія людзі ацаляюцца. Праўда-ж у тым, што ў нашыя часы цудаў, падобных да тых, якія здараліся ў часы зямнога жыцьця нашага Госпада Ісуса Хрыста, альбо першымі гадамі Хрыстовай Царквы, - стала менш.

Аднак у сёньняшнім Дабравесьці ёсьць вельмі вычарпальны адказ на пытаньне: «Чаму гэта так? Чаму ў наш час менш стала падобных цудаў?» «Па веры вашай будзе вам», - гаворыць сёньняшняе Дабравесьце. Справа - у якасьці, у моцы нашае веры. Вера ёсьць зыходны пункт дзеяньня ў нас Божай благадаці, ствараючай цуды. Тыя, што чытаюць альбо слухаюць Слова Божае, напэўна зьвярталі ўвагу на адну асаблівасьць: перш чым ацаліць каго ці стварыць які іншы цуд, Гасподзь, як правіла, пытаўся: «Ці верыш у Сына Божага?», «Ці верыш, што Я магу гэта зрабіць?» і г. д. Іншымі словамі, Гасподзь пытаўся аб наяўнасьці веры ў чалавека. Калі мы з вамі зьвяртаемся да Слова Божага, дык забываем, што вера ставіцца ў аснову адносінаў чалавека й Бога, у аснову нашага выратаваньня. Яшчэ ў Старажытным Запавеце людзям было сказана: «Праведны верай жывым будзе» (Авв. 2,4). А ў Новым Запавеце Гасподзь гаворыць: «Хто будзе мець веру й хрысьціцца, той збаўлены будзе; а хто ня будзе мець веры, асуджаны будзе» (Мк. 16,16). Таму што, як заўважае сьвяты апостал Павел, «бязь веры дагадзіць Богу немагчыма: бо трэба, каб той, хто прыходзіць да Бога, верыў, што Ён ёсьць, і шукальнікам Яго дасьць» (Яўр. 11,6). І «калі можаш вераваць, усё магчымае для таго, хто веруе» - дадае сам Гасподзь (Мк. 9,23).

Гэтыя й шмат якія іншыя сьведчаньні Слова Божага гавораць нам пра тое, як многа значыць і як многа можа вера. А таму, зважаючы на такую вялікую значнасьць веры, ёсьць патрэба пагаварыць пра яе больш грунтоўна, зразумець, што такое «хрысьціянская вера», што значыць «вераваць», што дае вера чалавеку. Вось на гэтыя пытаньні мы й спрабуем знайсьці адказы. Але пра гэта ўжо наступным разам.

А сёньня я, на заканчэньне, жадаў-бы падкрэсьліць, што цудатворныя часы, пра якія мы сёньня гаварылі, для веруючых ня ёсьць толькі гістарычны ўспамін, прадмет толькі захапленьня альбо шкадаваньня, - гэта й рэалія сёньняшніх дзён. Бо Гасподзь і сёньня з намі, і будзе «ва ўсе дні да сканчэньня веку» (Мф. 28,20). Пра гэта сказаў Сам Гасподзь і гэтую ісьціну Царква цьвёрда выказвае, гаворачы Хрысту праз кандак Узьнясеньня Гасподняга: «Ты, хто выканаў справу нашага збаўленьня й зямных зьяднаў зь нябесным, Ты ўзьнёсься ў славе, Хрысьце Божа наш, аніяк не адлучыўся, але прабываеш з намі безупынна й кажаш тым, хто любіць Цябе: Я з вамі й ніхто ня будзе супраць вас». Вось пра гэта й будзем усе памятаць і з гэтай верай будзем жыць. Амінь.

**айцец Васілі**




...ёсьць таямніца споведзі, таму ймя сваё назваць не магу. Але й маўчаць не магу. Аднойчы я сустрэўся з бабулькай-лякаркай. Пажаліўся, што хворы на цукрыну. «Ат, - сказала бабуля, - гэта не хвароба. Можаш вылечыць». Я не даслухаў. Ува мне ўсё выбухнула ад гневу. Што яна кажа! Ды ва ўсім сьвеце ніхто не знайшоў лекаў на гэтую хваробу! Многа тады яшчэ абурэньняў выказаў я і ў думках, і ў голас. Цяпер разумею, што гэта быў грэх, што загаварыла мая гардыня. Хвароба незаўважна запаланіла мяне. Я ўжо любіў сябе такога - хворага пакутніка. І раптам маё «каханьне» гэтак зьняважылі. Дагэтуль мяне ніхто так не праваказаў. Жыў, як жылося, цярпеў неяк. А ў той момант зрабіў выбар. Памылковы выбар. Я зьняважыў веру. І пачалося. У той дзень я прастудзіўся. Хоць тады быў цёплы жнівень. Увечары прыдумаў палячыцца - папацець. Напіўся гарбаты, накрыўся коўдрамі, паклаў пад ногі грэлку. Апёк нагу. Рана загнаілася. Кавалак нагі адрэзалі. Ці то ад запаленьня, ці ад антыбіётыкаў, ці яшчэ ад чаго, - перасталі працаваць ныркі. Зусім інвалідам стаў. І напэўна-б ужо загнуўся, калі-б не зразумеў свой грэх. Я зьвярнуўся да веры. Я паверыў, што буду жыць. Я паверыў, што магу перамагчы хваробу. Я яшчэ ня ведаю, як. Але я веру. Я шукаю. Гэта мяне трымае. Я потым напішу працяг і раскажу, як мне ўдалося вылечыцца. Каб вы ведалі, як я ўдзячны ўсім, хто дапамог мне вярнуць веру! Можа быць, мой дурны прыклад таксама камусьці дапаможа. Таму я й напісаў гэтую споведзь.

**Усім нашым чытачам у Амэрыцы, усім беларусам Амэрыкі і ўсяму амэрыканскаму народу выказваем нашае шчырае спачуваньне ў зьвязку з трагедыяй, што выпала на вашую долю апошнімі днямі. Зычым мужнасьці, трываласьці, разумных, узважаных рашэньняў у гэтыя цяжкія для амэрыканскай нацыі хвіліны.**

*Сябры рэдакцыі газэты «Рунь»*

### Умовы падпіскі

**Чытачы далёкага замежжа** могуць падпісацца, даслаўшы на рэдакцыю *імянны чэк* сакратару газэты Паўлу Саўчанку (*Pavel Savcenko*). Кошт падпіскі на год – **$20**. Паведамляем гэтаксама наш валютны рахунак:

*Please pay to AS Hansapank, HABA EE 2X at Bankers Trust Co., New York,*

*BKTR US 33, for further credit to AB Hansabankas, HABA LT 22,*

*in favour of VVIC "Demokratija Baltarusijai", account no. 10 000 196 490*

**Жыхары Літвы** могуць падпісацца ў сакратара газэты Паўла Саўчанкі (т: **61 62 24**) або ў кожным паштовым аддзяленьні Літвы. Падпісны індэкс газэты – **0187**. Кошт падпіскі на год – **12 Lt.**

**Падпісчыкам у Беларусі й краінах СНД** паведамляем адрас для перасылкі грошаў у Менску: *Кірыл Ігнацік, Сьвердлава 22-41, 220050 Менск.* Кошт падпіскі на год: у Беларусі – сума ў бел. рублях, эквівалентная **$ 3**, у краінах СНД – сума ў нацыянальнай валюце,

Газэта змакетаваная на настольна-выдавецкай сыстэме рэдакцыі «Atgimimas»

Адрас для допісаў:
**«Рунь» 2001 Vilnius, a/d 1021, Lithuania**
*e-mail:* **editor@runbel.lt**

### Ахвяраваньні на газэту:

| | |
|---|---|
| Я. Жучка з Бэльгіі | USD 50 |
| А. Nick з Амэрыкі | USD 30 |
| В. Сільвановіч з Амэрыкі | USD 50 |
| М. Бурнос і В. Кавалеўскі з Аўстраліі | USD 80 |
| К. Акула з Канады | USD 30 |
| М. Прускі з Амэрыкі | USD 15 |
| А. Монід з Амэрыкі | USD 50 |
| Я. Азарка з Амэрыкі | USD 20 |



**РУНЬ** газэта беларусаў Літвы
заснавальнік
**Таварыства беларускай культуры ў Літве**
выдаўца
**Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў *«Дэмакратыя для Беларусі»***
адрас рэдакцыі
Taikos, 50-29, 2017 Vilnius, Lithuania
тэлефон, факс: (+ 370 2) 42 38 02
**http:// www.runbel.lt**
*e-mail:* editor@runbel.lt
**Алег Мінкін** – рэдактар
**Павал Саўчанка** – сакратар
друкарня UAB «Dumsa», Žirmunų g. 68, Vilnius
наклад **1000**
ISNN 1392-7671